1998 2008 2009 2010 2011 2012 2013 2014 2015 2016 2017 2018

# ПРАВААБАРОНЦЫ СУПРАЦЬ СМЯРОТНАГА ПАКАРАННЯ

## 10 ГАДОЎ ЗМАГАННЯ




**2009–2019**

10 гадоў кампаніі
супраць смяротнага пакарання ў Беларусі

**Праваабаронцы супраць смяротнага пакарання. 10 год змагання**


Каардынатар: **Андрэй Палуда**

Укладальнік: **Паліна Сцепаненка**

Прадмова: **Алесь Бяляцкі**

Дызайн і вёрстка: **Віктар Корзун**

Суаўтарства канцэпту, падбор матэрыялаў: **Андрэй Палуда, Паліна Сцепаненка**

Карэктар: **Алена Укусік**

У альбоме выкарыстаныя матэрыялы з наступных крыніц:
**архіў кампаніі «Праваабаронцы супраць смяротнага пакарання»**, **http://dp.spring96.org/, Беларускае Радыё Рацыя https://www.racyja.com/, Радыё Свабода https://www.svaboda.org/, Наша Ніва https://nn.by/**

Гэты альбом пабачыў свет дзякуючы падтрымцы:

Дыпламатычнае прадстаўніцтва Швейцарыі ў Беларусі









Östgruppen för demokrati och mänskliga rättigheter

Шведская ініцыятыва за дэмакратыю і правы чалавека










# ПРАВААБАРОНЦЫ СУПРАЦЬ СМЯРОТНАГА ПАКАРАННЯ. 10 ГОД ЗМАГАННЯ

**2009–2019**
**10 гадоў кампаніі**
**супраць смяротнага пакарання ў Беларусі**

Мінск
2019

# Мы лічым гады па расстрэлах

Калі мы дзесяць гадоў таму распачыналі кампанію «Праваабаронцы супраць смяротнага пакарання», нашыя калегі-скептыкі, якія ўжо не першы год займаліся абаронай правоў чалавека ў Беларусі, недаверліва хіталі галовамі: «Дык а пра што і пра каго вы будзеце казаць?» Сапраўды, гэтая нябачная трагедыя ў будзённым жыцці краіны і народа была для нас выклікам. Выклікам маральным, бо нельга маўчаць, калі проста ў цэнтры Мінска, у СІЗА, як у сярэднявеччы на цэнтральнай плошчы, метадычна пазбаўляюць людзей жыцця. І выклікам практычным, бо ўся інфармацыя пра смяротныя прысуды ў Беларусі была недаступная для грамадства.

Але, на дзіва, штодзённая карпатлівая праца па расследаванні таямніцаў смяротных прысудаў амаль адразу пачала даваць свой вынік. З расстрэльнага туману пачалі выплываць напачатку размытыя, а потым усё больш акрэсленыя абрысы рэальных людзей. Асуджаныя да смяротнага пакарання, іхнія прозвішчы, іхнія жахлівыя гісторыі, іхнія лісты, напісаныя ад рукі, іхнія маткі, і жонкі, і дзеці. І бязмежны страх і адчай у радках лістоў, у вачах матак, якія да апошняй хвіліны жыцця сваіх сыноў (жанчын у Беларусі не расстрэльваюць), а часта і пасля расстрэлу вераць, што іхнія дзеці жывыя!

Больш прарэзалася працэдура надзялення смерцю асуджаных на смерць і пахаваных немаведама дзе ў нумарных капцах. Чалавек быў-быў, і яго проста не стала, так што і паверыць у смерць ягоную можна толькі апрыёры. А доказам — паперка з пячаткаю, якую прынёс паштальён. Вось прыйшла зусім нядаўна адной з мацярок пасылка з рэчамі расстралянага, чамусьці з Акцябрскага (Рудабелкі), ёсць такое мястэчка на гомельскім Палессі. І адразу яна павесялела, патэлефанавала нам і сказала: «Дык ён жа ў Петрыкаве на рудніках! Там жа шахту нейкую капаюць! Яго туды таемна саслалі, а нам не кажуць!» З гэтай думкаю цяпер яна і будзе гадамі жыць...

Няма апраўдання злачынствам, і ніхто з нас не бярэцца апраўдваць злачынцаў. Тым болей

няма апраўдання забойствам, якія чыняцца з дзяржаўнай рукі.

Мы бачым, як паволі мяняецца грамадская думка. Усё болей людзей спачувальна адгукаюцца на наш заклік: не забі! Але кожны год мы пераадольваем уласнае расчараванне і ўласную паразу, бо і надалей у лёхах Валадаркі ў расстрэльнай камеры суха трашчаць пісталеты. І ніякія глушыльнікі, ніякія турэмныя муры не могуць схаваць ад нас рэха гэтых стрэлаў.

У такой грамадскай кампаніі, як наша, немагчыма дабіцца частковага выніку. Тут ці выйграў, ці прайграў, і трэцяга не дадзена.

Кожны прамінулы год мы лічым па расстрэлах. І кожны новы год мы пачынаем з надзеяй, упарта паўтараючы для сябе словы **Вацлава Гаўла:**

***«Надзея, пэўна, не тое самае, што аптымізм. Гэта не перакананасць, што ўсё будзе добра, а ўпэўненасць у тым, што ўсё, што ты робіш, мае сэнс».***

*Алесь Бяляцкі,*
*праваабаронца*

Беларусь — адзіная краіна ў Еўропе і на постсавецкай прасторы, дзе існуе смяротнае пакаранне.

У Рэспубліцы Беларусь да смяротнага пакарання могуць быць асуджаныя мужчыны ва ўзросце ад 18 да 65 гадоў.

**Андрэй Палуда**, каардынатар кампаніі «Праваабаронцы супраць смяротнага пакарання ў Беларусі», гаворыць: *«Калі асуджаныя да смяротнага пакарання трапляюць у "калідор смерці", супрацоўнікі турмы ставяцца да іх так, як быццам іх ужо няма сярод жывых. Адвакатам часта адмаўляюць у спатканнях, карэспандэнцыя падвяргаецца цэнзуры або вымаецца, каб не дазволіць сем'ям ведаць, ці жывыя іх сваякі».*

Расстрэлы адбываюцца ў цэнтры Мінска — у следчым ізалятары (СІЗА) па вуліцы імя Валадарскага.

Мінск, СІЗА № 1 па вул. Валадарскага.

У 1998 годзе ў Праваабарончы цэнтр «Вясна», які тады яшчэ меў назву «Вясна-96», звярнулася маці Івана Фаміна, асуджанага на смяротнае пакаранне. Жанчына перадала праваабаронцам лісты, якія былі напісаныя ў камеры смяротнікаў і апынуліся на волі праз «турэмную пошту».

У лісце **Іван Фамін** пісаў пра тое, што яго асудзілі за жорсткае забойства таксіста, якога ён на самай справе не ўчыняў. Ён таксама даволі падрабязна апісваў умовы ўтрымання ў камеры смяротнікаў:

*«Тут натуральнае пекла... Б'юць літаральна за ўсё... Б'юць за тое, что пішаш заявы ў медчастку і каб прыйшоў святар для споведзі. І б'юць яшчэ проста так, калі ў іх няма настрою».*

Маці Івана Фаміна сцвярджала, што ўзяць чужую віну на сябе яе сына прымусілі крымінальнікі, якія пагражалі ў адваротным выпадку забіць яго маці і сястру.

У 1998 годзе па справе Івана Фаміна быў накіраваны зварот у Камітэт па правах чалавека ААН. Камітэт пачаў разгляд звароту і праінфармаваў Міністэрства замежных спраў Беларусі пра тое, што справа будзе разглядацца на міжнародным узроўні. Паводле п. 92 Правілаў працэдур Камітэта дзяржава не павінна прыводзіць у выкананне смяротны прысуд да разгляду звароту па сутнасці ў ААН. Нягледзячы на гэта, Іван Фамін быў расстраляны.

Гісторыя Івана Фаміна атрымала працяг у 2012 годзе падчас працы над фільмам «Убыл по приговору», калі актывісты кампаніі «Праваабаронцы супраць смяротнага пакарання ў Беларусі» паехалі ў Берлін да **Алега Алкаева**, які ў 1996–2001 гадах быў начальнікам СІЗА № 1 г. Мінска. Актывісты кампаніі ўзялі з сабой лісты, якія пісаў Іван Фамін з камеры смяротнікаў у 1998 годзе.

Алег Алкаеў, які на той час кіраваў не толькі СІЗА № 1, але і расстрэльнай камандай, сказаў, што добра памятае Івана Фаміна. А таксама пацвердзіў, што Іван Фамін быў расстраляны за забойства, якое ўчынілі іншыя людзі, і «ўсе ведалі», што ён узяў на сябе чужую віну і агаварыў сябе падчас следства і суда. І хоць «усе ведалі», Іван Фамін быў расстраляны. Алег Алкаеў падкрэсліў, што расстрэльная каманда выконвае рашэнне суда, кат не вырашае — каму жыць, а каму памерці, рашэнні прымаюцца на іншым узроўні.

---

**1** Ліст Івана Фаміна, накіраваны ў Праваабарончы цэнтр «Вясна» ў 1998 годзе з камеры смяротнікаў у СІЗА па вул. Валадарскага ў Мінску.

**2–3** Мінск, СІЗА № 1, камера смяротнікаў. На турэмнай робе літары «ИМН» («исключительная мера наказания»). 2006 год. На адным са здымкаў «смяротнік» у паласатай робе, пасля яго прымушаюць пераапрануцца ў робу з літарамі «ИМН» — для сюжэта дзяржаўнага канала тэлебачання.

-1-

В Комитет по правам человека
„Минская Весна – 96"
от осужденного Фомина Ивана
Вячеславовича к расстрелу
в данный момент содержащегося в Сизо-1 г. Минска

Заявление.

Уважаемые Члены Комитета Минская Весна-96! Прошу Вас защитить моё право на жизнь. В процессе следствия я вынужден был оговорить себя т.к. на меня было оказано психологическое давление со стороны так называемых моих „подельников" Шаткина А.Л. и Жарова С.В. Шаткин Александр и его брат Владимир угрожали мне и моим родным расправой если я не возьму на себя этих убийств, но это ещё не всё. Когда я пришол в Октябрский РОВД то, я сказал начальнику розыска, что я не виновен. Меня закрыли в камеру. Через 20-30 минут за мной приехали с Минско сельского РОВД и при всех начали бить называя меня убийцей. Избивать продолжали меня и во время перевоза в а/м „микроавтобус УАЗ" до самого Минско сельского РОВД. и при избивании, милиционеры говорили мне те тонкости дела которые мне не сказали Шаткин и Жаров. При взятии явки с повинной меня били два сотрудника И.В.С. по рукам и ногам резиновой дубинкой. Мне не оставалось выхода, т.к. следователь этого РОВД мне сказал если ты будешь молчать и говорить какой-то бред, что ты не убивал, то я – следователь сделаю тебя калекой но ты всеравно напишешь то, что мне нада. Также следователь сказал, если ты Фомин напишешь явку с повинной то тебя больше не будут бить. И я боясь, что меня искалечут, согласился. Когда меня за-

1




2



3

У верасні 1982 года ў лесе на Кабыляцкай гары пад Оршай пры будаўніцтве была знойдзеная яма з целамі 50 расстраляных. Камісія прызнала, што гэта расстрэлы савецкіх часоў. Вось гэты ўнікальны дакумент: *«20 верасня 1982 года Камісія з прадстаўнікоў савецкіх і адміністрацыйных органаў (пракурор, судовы эксперт, прадстаўнік ваенкаманта, міліцыя) правяла агляд парэшткаў, знойдзеных пры будаўніцтве чыгуначнага адгалінавання Орша-Паўночная. (...)*

*Пасля апытання мясцовых жыхароў і правядзення эксгумацыі камісія выключае магчымасць таго, што гэтыя людзі былі расстраляныя падчас нямецкай акупацыі.*

*Звычайна немцы праводзілі расстрэлы адкрыта, а не ў глухіх месцах, з аўтаматаў без пашкоджання касцей галавы. (...) Агляд месца паказаў, што захаванне праведзенае ў 1937—1939 гг. у глухім лясным масіве. (...) усе пяцьдзясят чарапоў маюць адтуліны ад кулі ў лобнай частцы».*

Акт 1982 года пра страшную знаходку на Кабыляцкай гары пад Оршай парэшткаў 50 чалавек, расстраляных пры рэжыме Сталіна.

А К Т

20 сентября 1982 года г.Орша.

Комиссия представителей советских и административных органов в составе: ответственного секретаря Оршанского районного отделения Белорусского общества охраны памятников истории и культуры ПИЩАЛОВА I прокурора тов.АНДРЕЙКОВОЙ Г.Н., врача судебно-врачебной экспертизы тов.ЛОСЕВА В.А., старшего лейтенанта Оршанского военкомата тов.РИЗОВАТОВА В.Д., старшего лейтенанта милиции тов.ЛУЧИНА Н.С. сего числа произвели осмотр останков захороненных людей, обнаруженных при строительстве подъездной железнодорожной ветки к заводу ЖБИ межколхозстроя через лесной массив южнее деревни Андреевщина.

Осмотром на месте обнаруженных местными жителями останков захороненных людей установлено, что захоронение произведено примерно в 1937-1939 г.г. в глухом лесном массиве в братской могиле пятьдесят человек. Время захоронения подтверждается тем, что хорошо сохранившаяся обувь, состоящая их хромовых сапог с калошами, мало поношенных туфлей с калошами и другой модельной обувью, имела хорошо сохранившиеся фабричные штампы Московской фабрики "Красный треугольник" и Ленинградской фабрики резиновых изделий с хорошо видимым годом изготовлени - 1936 - 1937 год (белый треугольный штамп). Все пятьдесят человеческих черепов имеют пулевое отверстие в лобной части и хорошо сохранились.

Опросив старожилов дер.Андреевщина и близлежащих деревень с цел выяснения возможности расстрела советских людей немецко-фашисткими захватчиками в период Великой Отечественной войны 1941-1945 г.г. было установлено, что расстрелов в период оккупации Белоруссии немцы в этих местах не производили. Как правило,расстрелы немцы производили открыто, а не в глухих местах, из автоматов без повреждений костей головы. Все жители подтверждают, что расстрелы советских людей производились в 1937-1939 г.г. органами НКВД. В этот период лес, так называемой "Кобылицкой горы" был местом массовых расстрелов ни в чем не повинных советских людей, так же, как лесной массив по Могилевскому шоссе у дер.Поддубцы.

Комиссия считает, что захоронение произведено в 1937-1940 г.г. репрессированных советских людей.Останки следует захоронить на месте

-2-

их обнаружения. Для этой цели и рытья могилы выделить людей директ завода ЖБИ Облмежколхозстрой тов.Закревскому И.М.

КОМИССИЯ: Пищалов Г.Х.
Андрейкова Г.Н.
Лосев В.А.
Ризатов В.Д.
Лучин Н.С.



У 2009 годзе Праваабарончы цэнтр «Вясна» і Беларускі Хельсінкскі камітэт ініцыявалі кампанію «Праваабаронцы супраць смяротнага пакарання», якая стартавала ў студзені пры падтрымцы міжнароднай грамадскай арганізацыі «Amnesty International». На працягу года аказвалася прававая дапамога асуджаным да смяротнага пакарання, была праведзена шырокая інфармацыйная кампанія (наколькі гэта магчыма ў Беларусі з улікам фактычнай манапалізацыі медыйнай прасторы дзяржавай), арганізоўваліся прэс-канферэнцыі, дыскусіі, конкурсы творчых прац, вулічныя акцыі.

**1** Лагатып кампаніі «Не забі[рай жыццё]! Праваабаронцы супраць смяротнага пакарання», аўтар Віктар Корзун.

**2** Першая каардынатарка кампаніі Ірына Тоўсцік з Праваабарончага цэнтра «Вясна».

**3–4** Актывісты кампаніі «Праваабаронцы супраць смяротнага пакарання» збіраюць подпісы пад петыцыяй супраць смяротнага пакарання. Мінск.

У межах кампаніі была падрыхтавана петыцыя з заклікам да ўлад адмяніць у Беларусі смяротнае пакаранне. 10 снежня петыцыя была перададзена ў Адміністрацыю прэзідэнта і адначасова яе копія — у Палату прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу.

Першым падпісаў петыцыю супраць смяротнага пакарання Мечыслаў Іванавіч Грыб, заслужаны юрыст Беларусі (1994), Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь 12-га склікання (1994–1996), старшыня Камісіі па правах чалавека пры Прэзідыуме Вярхоўнага Савета. Пад старшынствам Мечыслава Грыба 15 сакавіка 1994 года была прынятая першая Канстытуцыя суверэннай Беларусі.

---

1 **Мечыслаў Грыб,** заслужаны юрыст Беларусі, Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь 12-га склікання (1994–1996), старшыня Камісіі па правах чалавека пры Прэзідыуме Вярхоўнага Савета: *«Калі ўзнікае пытанне аб смяротным пакаранні, то мне згадваецца такі канкрэтны прыклад: 29 лютага 1980 года да выключнай меры пакарання быў прыгавораны Цярэня і да 15 гадоў пазбаўлення волі — Кадушкіна за забойства Шайпук, учыненае ў ноч з 9 на 10 верасня 1979 года Міхасевічам Г. М. у Полацку. Прысуд у адносінах да Цярэні прыведзены ў выкананне 20 чэрвеня 1980 года. Кадушкіна правяла ў турме больш за 6 гадоў і была вызвалена ў жніўні 1986 года пасля затрымання сапраўднага злачынцы Міхасевіча. Па крымінальнай справе Міхасевіча было вызвалена яшчэ 11 чалавек, незаконна асуджаных Віцебскім абласным судом за забойствы жанчын, якія ўчыніў Міхасевіч. Усе яны былі рэабілітаваныя, наколькі можна было іх рэабілітаваць, бо яны адседзелі ў савецкіх лагерах ад 5 да 10 гадоў і страцілі там здароўе. Цярэня М. С. быў рэабілітаваны пасмяротна. Гэта памылка суда, якую выправіць ужо немагчыма».*

2 **Кшыштаф Занусі,** кінарэжысёр: *«Папа Рымскі Ян Павел Другі вельмі горача выказваўся, што ўжо няма апраўдання ў сённяшнім свеце для смяротнага пакарання, хоць некалі апраўданне, магчыма, і было. І, вядома, з чалавечага пункту гледжання я вельмі супраць. Мне гэта здаецца чымсьці зусім немагчымым».*

3 **Кася Камоцкая,** спявачка: *«Ніхто не мае права адбіраць у чалавека жыццё. У краіне, дзе няма рэальных судоў, цалкам магчымыя несправядлівыя прысуды і проста памылкі. І можна пакараць невінаватых людзей. Смяротнае пакаранне — гэта ёсць прыкмета вялікай адсталасці краіны».*

4 **Жанна Літвіна,** журналіст, з 1995 да 2015 года — старшыня грамадскага аб'яднання «Беларуская асацыяцыя журналістаў», лаўрэат прэміі Фонда Эберта па правах чалавека: *«Я лічу, што цывілізаванае грамадства павінна выключыць смяротныя прысуды, каб пазбегнуць пакарання невінаватых. І ўвогуле, смяротнае пакаранне можна таксама разглядаць альбо ўспрымаць як нейкае ахвяprапрынашэнне. Я лічу, што нават пажыццёвае зняволенне для злачынцы — яшчэ большая Божая кара, чым прывядзенне ў выкананне смяротнага прысуду».*

5 **Лявон Вольскі,** музыка: *«Мы нічога не зменім, калі заб'ём чалавека, які ўчыніў нават вельмі-вельмі страшнае злачынства. Паверце мне, нічога гэта не зменіць, апроч таго, што будзе нараджаць усё новую і новую крыважэрнасць. За смяротнае пакаранне могуць быць хіба што людзі, якія пераследуюць нейкія палітычныя мэты альбо па натуры проста крыважэрныя і не вельмі добрыя».*

6 **Уладзімір Пугач,** музыка: *«Я веру ў тое, што калі-небудзь людзі перастануць забіваць адзін аднаго. І ў што хацелася б верыць болей за ўсё, дык гэта ў тое, што людзі ўсё ж перастануць забіваць адзін аднаго па законе. Я маю на ўвазе смяротнае пакаранне».*



1 **Павел Сапелка,** юрыст: *«Забойства чалавека чалавекам застаецца забойствам, як бы яно ні было названа дзяржавай, грамадствам. Няхай гэта называецца смяротным пакараннем, няхай гэта называецца вышэйшай мерай сацыяльнай справядлівасці, няхай гэта называецца дзесяццю гадамі без права перапіскі — забойства застаецца забойствам».*

2 **Святлана Алексіевіч,** пісьменніца, лаўрэат Нобелеўскай прэміі па літаратуры: *«На працягу 30 гадоў я пішу сваю “чырвоную хроніку”, так я называю свой цыкл кніг. Я вельмі многа пішу пра вайну. І сама была ў Афганістане і бачыла, як забіваюць людзей, як забіраюць чалавечае жыццё... І я заўсёды думала: як людзі жывуць адзін на адзін з той думкай, што яны могуць забіць іншага чалавека, зрабіць справу Бога? Паколькі ні ў кога з нас няма на гэта права. Гэта старое, дапатопнае вырашэнне чалавечых праблемаў: забіць іншага, таму што ён з табой не згодны, таму што ён не такі, як ты, або ён учыніў штосьці страшнае. Я думаю, што наш свет так і застанецца светам людзей, якія забівалі да сябе падобных. Я, вядома, далучаюся да тых, хто хоча наблізіць іншы час, калі ў іншага чалавека нават не ўзнікне думкі, як сёння ў нас не ўзнікае думкі з’есці іншага чалавека, бо людажэрства знікла з чалавечага жыцця, так і не ўзнікне думкі забіць іншага чалавека».*

3 **Уладзімір Арлоў,** пісьменнік: *«Калі чалавеку выносяць смяротны прысуд, то ён губляе магчымасць, калі ён невінаваты, дачакацца справядлівасці. Шмат хто з Беларусі памятае “Віцебскую справу”. Па гэтай справе былі асуджаны невінаватыя, адзін чалавек — да смяротнага пакарання. Многія абвінавачаныя па гэтай справе доўгі час утрымліваліся за кратамі, пакуль сапраўдны забойца быў знойдзены. Так, брат нашых знаёмых вярнуўся з турмы хворы, зламаны фізічна і маральна. Праз год пасля вызвалення ён памёр. Наяўнасць смяротнага пакарання прыводзіць да таго, што жыцця нярэдка пазбаўляюць невінаватых людзей».*

4 **Алесь Марачкін,** мастак: *«Смяротнае пакаранне трэба цалкам адмяніць. І тлумачу чаму: у нас ёсць дастаткова сілавых структур — пракуратура, войскі спецыяльнага прызначэння, міліцыя, якія ахоўваюць такіх людзей. І самым страшэнным злачынцам — пажыццёвы прысуд, пажыццёвае пакаранне. Так мы не парушаем запаведзь Божую: “Не забі!”»*

5 **Зміцер Вайцюшкевіч,** спявак: *«Падтрымліваю зварот да беларускіх уладаў, таму што лічу, што прыходзіць час зразумець, хто мы такія, адкуль бярэцца зло і хто мае права судзіць і як судзіць. Рэчы складаныя і рэчы простыя. Вельмі не хацелася б, каб забівалі людзей нявінных, таму што часам так здараецца».*

6 **Адам Глобус,** пісьменнік: *«Калі наша дзяржава ці любая іншая дзяржава асуджае чалавека на смерць і знішчае яго, замест аднаго забойцы ў нашым грамадстве застаюцца некалькі. Гэта пракурор, які патрабаваў смяротнага пакарання, — гэта забойца. Гэта суддзя, які вынес чалавеку смяротны прысуд, — гэта таксама забойца. Гэта кат, які здзейсніў забойства. Атрымліваецца, калі ў грамадстве, у дзяржаве мы некага забіваем — замест аднаго забойцы атрымліваем трох. Мы плодзім забойцаў у дзяржаве, а гэта недапушчальная з’ява».*

7 **Тамара Лісіцкая,** журналіст, пісьменніца і сцэнарыст: *«Людзі не павінны забіваць людзей. І кропка! І мне б вельмі хацелася, каб такі закон быў прыняты паўсюль. І на зямлі, і на нябёсах. А калі гэта не падаецца пераканальным, то ёсць яшчэ адна папулярная фраза: толькі Бог вырашае, толькі Бог судзіць. І кожны панясе тое пакаранне, якое ён мусіць панесці. І не нам гэта вырашаць».*



1 **Зінаіда Бандарэнка,** народная артыстка Беларусі: *«Я лічу, што на хрысціянскай Беларусі не павінны выносіцца смяротныя прысуды. З Божай ласкі чалавек павінен жыць. А калі ён сам учыніў жорсткае злачынства, то на тым свеце ён абавязкова панясе пакаранне».*

2 **Кацярына Пытлева,** спявачка: *«Смяротнае пакаранне фактычна з'яўляецца помстай. Я лічу, што чалавек, які ўчыніў злачынства, лепш усведамляе зробленае, калі ён да канца пражыве жыццё, ведаючы, што ён ніколі не пакіне сцен камеры і не зможа больш зрабіць нічога, акрамя як сядзець, думаць і ўзгадваць тое, што ён зрабіў».*

3 **Алег Гулак,** праваабаронца, старшыня Беларускага Хельсінкскага камітэта: *«Смяротнае пакаранне Беларусь абавязана адмяніць таму, што гэта дзікунства — у XXI стагоддзі дазваляць, каб дзяржава забівала чалавека. Гэта здзек з людзей, гэта здзек з права, гэта здзек з сучаснасці. Я лічу, што дзяржава, дзяржаўныя органы цяпер абавязаны перш за ўсё ўвесці мараторый на выкананне смяротнага пакарання і потым выключыць увогуле смяротнае пакаранне з Крымінальнага кодэкса. Гэта будзе вельмі важна для гуманізацыі беларускага грамадства».*

4 **Міхаіл Пастухоў,** заслужаны юрыст Рэспублікі Беларусь, суддзя Канстытуцыйнага Суда (1994–1997): *«Гісторыя цывілізацыі, грамадства якраз сведчыць пра тое, што паступова мы рухаемся да прагрэсу, адмаўляемся ад такіх страшных, выродлівых пакаранняў, якія былі раней, у тым ліку звязаных з пакараннем смерцю: чвартаванне, абезгалоўліванне, павешанне. І хоць расстрэл лічыцца, у двукоссі, такім "гуманным", цывілізаваным нібыта пакараннем, але вынік ад гэтага не змяняецца — дзяржава забівае сваіх людзей, няхай самых дрэнных, няхай за самыя жудасныя злачынствы. Рэспубліцы Беларусь неабходна адмовіцца ад смяротнага пакарання і ўвайсці ў еўрапейскую сям'ю народаў, якія адмовілася ад гэтага варварскага віду пакарання».*

5 **Андрэй Хадановіч,** паэт: *«Смяротнае пакаранне адвеку — гэта спроба трымаць чалавека ў рамках, нагнятаючы гэтае пачуццё страху. Смяротнае пакаранне — гэта магчымасць памылкі, а смерць — гэта тое, чаго нельга выправіць. Мы не тая інстанцыя, якая можа вырашаць, варты чалавек жыцця ці не варты».*

6 **Гары Паганяйла,** праваабаронца: *«Права на жыццё з'яўляецца натуральным правам. Яно падаравана Госпадам Богам, і ніхто не можа адабраць жыццё ў чалавека. Таму я выступаю супраць наяўнасці ў нашых законах указанняў на смяротнае пакаранне ў якасці кары за крымінальныя злачынствы. Нельга ставіць дзяржаву ва ўмовы, калі яна сама павінна ўчыняць забойствы».*

7 **Ганна Хітрык,** спявачка: *«Я ўвогуле не ведаю, што можа прымусіць мяне сказаць, што я за тое, каб кагосьці не стала, увогуле, кагосьці жывога. І я не разумею людзей, якія кажуць: "Так, гэтага чалавека трэба прыбраць, знішчыць, груба кажучы, забіць", — таму што, калі ты за смяротнае пакаранне, значыць, ты і за вайну. Я разумею, што чалавек, якога асуджаюць да таго, каб яго не стала, зрабіў вельмі шмат усяго нядобрага. Але помста — гэта ўвогуле дрэнна».*

5 чэрвеня 2009 года ў Мінску на вуліцы Нямізе падчас правядзення перформансу ўдзельнікі мастацкай пастаноўкі былі затрыманы нібыта «за ўдзел у масавым мерапрыемстве».

Перформанс супраць смяротнага пакарання. Мінск, 5 чэрвеня 2009 года.

10 лістапада ў Мінску прайшла прэс-канферэнцыя, на якой маці Андрэя Жука, асуджанага да смяротнага пакарання ў 2009 годзе, звярнулася да прэзідэнта. **Святлана Жук** прасіла Аляксандра Лукашэнку памілаваць сына. У прэс-канферэнцыі бралі ўдзел праваабаронца ПЦ «Вясна» **Валянцін Стэфановіч** і **Хэза Макгіл** з «Amnesty International», якая сказала: *«Сакрэтнасць, якой ахутана смяротнае пакаранне ў Беларусі, на самай справе ў дачыненні да сваякоў прыраўноўваецца да катаванняў. Таму што чалавек, асуджаны да пакарання смерцю, не ведае, калі ён можа быць расстраляны, і сваякі таксама нічога не даведаюцца, нават дату. Гэта вельмі цяжкое выпрабаванне для людзей. Гэта цяжка для вязняў, якія кожную хвіліну чакаюць: калі расчыняцца дзверы — іх павядуць на смерць. Гэта жахліва для сваякоў, якія нічога не ведаюць. Яны не могуць развітацца з родным чалавекам, не атрымаюць яго цела і нават яго рэчы, не будуць ведаць, дзе ён пахаваны».*

Прэс-канферэнцыя з удзелам бацькоў Андрэя Жука, асуджанага да смяротнага пакарання, і праваабаронцаў з ПЦ «Вясна» і «Amnesty International». 2009 год.

Праваабаронца Ірына Тоўсцік ліставалася з Андрэем Жуком, асуджаным да смяротнага пакарання. *«Гэта была кароткая перапіска, якая спынілася пасля хуткага расстрэлу,* — узгадвае Ірына. — *У сваіх лістах Андрэй Жук разважаў пра межы справядлівасці кары смерцю. Прыводзіў прыклады, калі аднаму за падобнае злачынства прысудзілі 25 гадоў зняволення, другім — пажыццёвае, а яму — расстрэл».*

З ліста Андрэя Жука: *«Міністр юстыцыі, выказваючы свой пункт гледжання за захаванне смяротнага пакарання, гаворыць, што, разглядаючы гэтае пытанне, можна спытаць, як лічаць родныя загінулых. Эмоцыі, помста — гэта не правасуддзе. У такім выпадку і суды не патрэбныя. Хай дадуць тым самым сваякам у рукі зброю і — суд Лінча...»*

---

Праваабаронца Ірына Тоўсцік ліставалася з Андрэем Жуком.

Цела пакаранага смерцю пасля выканання прысуду ў Беларусі не выдаецца для пахавання сваякам, пра месца знаходжання цела не паведамляецца.

18 сакавіка 2010 года былі расстраляныя Андрэй Жук і Васіль Юзэпчук. 23 сакавіка ў Мінску прайшла экстраная прэс-канферэнцыя, звязаная з прывядзеннем у выкананне смяротных прысудаў у дачыненні да А. Жука і В. Юзэпчука.

**Святлана Міхайлаўна Жук**, маці аднаго з расстраляных, распавяла: *«Пасля сустрэчы 4 сакавіка я спытала, калі можна перадаць сыну наступную перадачу. Мне адказалі: 19 сакавіка. Прывезлі перадачу, як звычайна падала заяву. Мне сказалі: пачакайце, іх некуды павезлі. Потым выйшаў нейкі дзяжурны адміністратар і сказаў: “Увогуле, вы яго нідзе не шукайце, чакайце паведамлення”. Мы ездзілі па могілках вакол Мінска, шукалі свежыя магілы. Учора пайшлі на прыём да начальніка СІЗА, ён сказаў: «Мы яго адправілі па месцы прысуду. Ідзіце ў суд — туды, дзе яму выносілі прысуд».*

1 чэрвеня ў ЗАГСе Салігорска Святлане Жук нарэшце выдалі пасведчанне пра смерць сына. У дакуменце ўказаны дзень смерці — 1 сакавіка 2010 года, у графе «прычына смерці» — прочырк. Акт зафіксавання смерці датаваны 21-м сакавіка.

Каб атрымаць пацверджанне пра тое, што сына больш няма сярод жывых, жанчыне давялося прыкласці нямала намаганняў. *«Прысуд выканалі, а паведаміць бацькам не лічаць патрэбным,* — сказала Святлана Жук. — *Пасля таго як начальнік турмы пацвердзіў, што прысуд выкананы, мы зладзілі памінкі. Зрабілі магілку ў вёсцы, куды б можна было прыйсці, памянуць сына. Падхавалі туды рэчы Андрэя, каб магілка хоць неяк атаясамлівалася з ім».*

4 кастрычніка 2010 года Святлана Жук абскардзіла ў Ленінскім раённым судзе сталіцы адмову Дэпартамента па выкананні пакаранняў МУС паведаміць пра месца пахавання яе сына. З гэтай просьбай яна звярталася ў Міністэрства ўнутраных спраў. Дэпартамент па выкананні пакаранняў спаслаўся на арт. 175 КК, згодна з якім «цела для пахавання не выдаецца, пра месца пахавання не паведамляецца».

---

**1** Пасведчанне аб смерці Андрэя Жука, расстралянага 18 сакавіка 2010 года, у графе «прычына смерці» стаіць прочырк. Менавіта гэты дакумент даў назву для дакументальнага праваабарончага фільма «Прычына смерці — прочырк».

**2** Маці расстралянага Васіля Юзэпчука, кадр з дакументальнага фільма «Прычына смерці — прочырк».

**3** Праваабаронца Ірына Тоўсцік і маці расстралянага Андрэя Жука на Паўночных могілках Мінска шукаюць магілы неапазнаных — па адной з версій, тут хавалі пакараных смерцю. Версія больш падобная на легенду. Але сваякі расстраляных шукаюць цела менавіта тут. Падчас здымак фільма «Прычына смерці — прочырк».

Гражданин(ка) ЖУК
фамилия,
АНДРЕЙ СЕРГЕЕВИЧ
собственное имя, отчество
умер(ла) 18.03.2010
число, месяц, год цифрами и прописью
восемнадцатого марта две тысячи десятого года

в возрасте 26 лет, о чем в книге регистрации актов о смерти
21 числа апреля месяца 2010 года
произведена запись за № 313
Причина смерти ------------------------------

Место смерти: республика (государство) Беларусь

1



2



3

Суд над удзельнікамі пікета супраць смяротнага пакарання. **Алесь Бяляцкі, Ірына Тоўсцік і Валянцін Стэфановіч.** Сакавік 2010 года.

Алесь Бяляцкі, Ірына Тоўсцік і Валянцін Стэфановіч падчас суда. Сакавік 2010 года.

**10** кастрычніка — **Сусветны дзень барацьбы супраць смяротнага пакарання.**

1 10 кастрычніка — Сусветны дзень барацьбы супраць смяротнага пакарання, 2010 год. Алесь Бяляцкі, Зміцер Саўка, Ілона Урбановіч-Саўка.

2 10 кастрычніка — Сусветны дзень барацьбы супраць смяротнага пакарання. Ірына Тоўсцік і Алесь Бяляцкі на пікеце. Мінск, 2010.

3 Лагатып кампаніі «Праваабаронцы супраць смяротнага пакарання», аўтар Уладзімір Цэслер.

У кастрычніку 2010 года **Стынг**, вядомы ва ўсім свеце музыка, падтрымаў намаганні праваабаронцаў у барацьбе за адмену смяротнага пакарання ў Беларусі. Стынг, які выступіў з канцэртам у Мінску ў ходзе сусветнага турнэ Symphonicity, сустрэўся з праваабаронцамі, каб падпісаць петыцыю за адмену смяротнага пакарання. *«Час гэта змяніць»*, — сказаў Стынг у сваім відэазвароце.

*«Прывітанне! Мяне завуць Стынг, і я супраць смяротнага пакарання ва ўсіх выпадках — таму што я веру ў чалавечую годнасць. Толькі адна краіна ў Еўропе прымяняе смяротнае пакаранне — Беларусь. Час гэта змяніць. Няхай ваш голас пачуюць, падпішыце петыцыю супраць смяротнага пакарання ў Беларусі, і давайце спынім гэта — раз і назаўсёды. Дзякуй».*

---

**1** Стынг.

**2** Алег Гулак, Стынг, Валянцін Стэфановіч — супраць смяротнага пакарання. Мінск, кастрычнік 2010 года.

**3** Петыцыя за адмену смяротнага пакарання.



1




2

Нe забірай жыццё!

Праваабаронцы супраць смяротнага пакарання ў Беларусі

**Petition against the Death Penalty**

Belarus is the last country in Europe and former Soviet Union that is still carrying out the death penalty. Amnesty International, Human Rights Centre "Viasna", Belarusian Helsinki Committee and other human rights defenders in Belarus oppose the death penalty in all cases without exception. The death penalty is a violation of the right to life, guaranteed by the Constitution of Belarus and the Universal Declaration of Human Rights. Nothing can justify the purposeful and ruthless taking of a human life by State.

The death penalty is a destructive and divisive public policy that has been shown to have no special deterrent effect on crime. It distracts from effective measures being taken against criminality through promoting simplistic responses to complex human problems. It denies the possibility of rehabilitation and reconciliation. It prolongs the suffering of the murder victim's family, and extends that suffering to the relatives of the condemned prisoner. Amnesty International, Human Rights Centre "Viasna", Belarusian Helsinki Committee does not seek to belittle the suffering of the families of murder victims, and recognizes and endorses a government's duty to protect the rights of all people under its jurisdiction. However, executions are a symptom of a culture of violence rather than a solution to it. By executing a person the state commits a premeditated killing and shows a similar readiness to use physical violence as the criminal.

In Belarus the use of the death penalty is compounded by a flawed criminal justice system that administers capital punishment in a manner that violates international laws and standards pertaining to the death penalty. There is credible evidence that torture and ill-treatment are used to extract "confessions"; condemned prisoners may not have access to effective appeal mechanisms; and the inherently cruel, inhuman and degrading nature of the death penalty is compounded for death row prisoners and their relatives by the secrecy surrounding the death penalty. Neither prisoners nor their families are told the execution date in advance and prisoners must live with the fear that every time their cell door opens they may be taken for execution.

We call on the President and Parliament of Belarus to immediately declare a moratorium on death sentences and executions as a first step towards full abolition of the death penalty.

18/9/10
Date

Sting
Signature

3

У кастрычніку 2010 года святар **Аляксандр Надсан**, апостальскі візітатар для беларусаў-каталікоў, сустрэўся з праваабаронцамі, каб падпісаць петыцыю за адмену смяротнага пакарання.

Аляксандр Надсан сказаў: *«Я — святар, хрысціянін. І для мяне жыццё — гэта дар Божы, які трэба выкарыстаць як найлепей, на славу Божую, для дабра іншых на зямлі. Жыццё можа даць толькі Бог, і Бог бярэ нашае жыццё тут, на зямлі, у свой час. Ніхто іншы не мае права гэтага зрабіць. Гэта мой прынцып. Калі ж больш практычна глядзець на штодзённае жыццё, дык для мяне важна, што смяротнае пакаранне не з'яўляецца пакараннем. Пакаранне ў тым, што чалавек павінен пацярпець за тое, што ён зрабіў нейкае злачынства, але яму патрэбна даць магчымасць пакаяцца і захаваць сваё жыццё. А калі ў яго адбярэш жыццё, дык ён не зможа пакаяцца. І трэба заўсёды мець тую надзею, што нават самы зацяты злачынца, самы скамянелы сэрцам, калі будзе доўга жыць, калі ў яго застанецца хоць адзін дзень, можа пакаяцца. Памятайце, як казаў Госпад Бог: "Я не хачу смерці грэшніка, але хачу каб ён пакаяўся". Вось гэтае самае важнае для мяне. Гэта частка маёй веры».*

---

Святар Аляксандр Надсан падпісвае петыцыю супраць смяротнага пакарання. Кастрычнік 2010 года.

10 кастрычніка 2010 года ў Вільні музыкі з Беларусі і Літвы адыгралі разам на адной сцэне дабрачынны канцэрт, каб заклікаць людзей сказаць «НЕ!» смяротнаму пакаранню ў Беларусі.

Літоўскія выканаўцы **Zala & Driukas** не першы раз выступалі ў Вільні на канцэртах беларуска-літоўскай салідарнасці. Zala (Andrius Zalieska) сказаў, што яны выступілі задарма, таму што добрыя ідэі трэба падтрымліваць: «Я сам супраць таго, каб забіваць».

Zala & Driukas выступалі разам з беларускім гуртом **«RAHIS»** у адным з клубаў у цэнтры Вільні. Перад пачаткам канцэрту актывісты раздавалі ўлёткі з інфармацыяй пра праблему смяротнага пакарання ў Беларусі.

Zala & Driukas выступалі разам з беларускім гуртом «RAHIS» у адным з клубаў у цэнтры Вільні.

30 лістапада 2010 года актывісты кампаніі «Праваабаронцы супраць смяротнага пакарання» правялі ў Мінску акцыю «Гарады за жыццё — гарады супраць смяротнага пакарання». Дзясяткі знічоў надвячоркам запалілі актывісты каля сцен Чырвонага касцёла (Святых Сымона і Алены).

Дзясяткі знічоў надвячоркам запалілі актывісты каля сцен Чырвонага касцёла.

Актывісты кампаніі **«Праваабаронцы супраць смяротнага пакарання»** ў 2011 годзе падрыхтавалі інфармацыйны буклет з выказваннямі беларускіх пісьменнікаў, мастакоў ды праваабаронцаў супраць смяротнага пакарання.

Інфармацыйны буклет з выказваннямі беларускіх пісьменнікаў, мастакоў ды праваабаронцаў супраць смяротнага пакарання.



**Алесь Бяляцкі**

*старшыня Праваабарончага цэнтру "Вясна", віцэ-прэзідэнт Міжнароднай федэрацыі правоў чалавека (FIDH)*

— Тое, што ў Беларусі да гэтага часу прыводзяцца да выканання смяротныя прысуды — гэта абуральна. І вельмі выразна сведчыць аб жорсткасці беларускай рэпрэсіўнай сістэмы, уключаючы ў сябе суды, пракуратуру і месцы ўтрымання вязняў. Мне здаецца, што Беларусь працягвае чапляцца за савецкае мінулае, дзе смяротнае пакаранне выкарыстоўвалася вельмі часта. Дзякуючы таму, што беларускія праваабаронцы пачалі кампанію супраць смяротнага пакарання ў Беларусі, сама праблема стала больш рэальнай, персаніфікаванай: мы ўбачылі канкрэтных людзей, якія стаяць за ёй — асуджаных да вышэйшай меры пакарання і расстраляных, іх сваякоў. Праблема стала больш зразумелай для грамадства. І роля дзяржавы ў гэтай сітуацыі стала відавочна нявыйгрышнай. Дзяржава з суровага бароніцы спакою і парадку ператвараецца ў помслівага ката з пісталетам у руках.



**Святлана Алексіевіч**

*беларуская пісьменніца, лаўрэат Нацыянальнай прэміі крытыкаў ЗША*

— Смяротнае пакаранне — гэта старое, дапатопнае вырашэнне чалавечых праблемаў: забіць іншага, таму што ён з табой не згодны, таму што ён не такі, як ты, або ён здзейсніў штосьці страшнае. Я думаю, што наш свет так і застанецца светам людзей, якія забівалі да сябе падобных. Я, вядома, далучаюся да тых, хто хоча наблізіць іншы час, калі ў іншага чалавека нават не ўзнікне думкі, як сёння ў нас не ўзнікае думкі з'есці іншага чалавека, так як людажэрства знікла з чалавечага жыцця, так і не ўзнікне думкі забіць іншага чалавека.

**Далучым Беларусь да свету, вольнага ад смяротнага пакарання!**

**Петыцыя:**

*"Мы, грамадзяне Рэспублікі Беларусь, лічым, што жыццё з'яўляецца найвышэйшай каштоўнасцю, натуральным і неад'емным правам чалавека. Мы цвёрда перакананыя: ніштo не можа апраўдаць наўмыснае і бязлітаснае пазбаўленне чалавека жыцця ад імя дзяржавы.*

*Смяротнае пакаранне мае незваротны характар. Пазбаўленне жыцця не выправіць здзейсненага злачынцам і не адновіць справядлівасць. Акрамя таго, нельга выключаць судовых памылак. У выпадку смяротнага пакарання выправіць судовую памылку і вярнуць жыццё чалавеку немагчыма.*

*Наяўнасць смяротнага пакарання не з'яўляецца дадатковай абаронай грамадскасці, паколькі не стрымлівае людзей шляхам застрашэння ад здзяйснення злачынстваў. У навуковых даследваннях адсутнічаюць пераканаўчыя доказы таго, што смяротнае пакаранне - больш эфектыўны сродак зніжэння злачыннасці, чым іншыя віды пакарання.*

*Не імкнучыся прынізіць пакуты ахвяраў і іх родных, мы звяртаем увагу на тое, што працэдура выканання смяротнага пакарання, якая існуе ў Беларусі — гэта бесчалавечнае абыходжанне са сваякамі асуджаных да смерці: яны пазбаўленыя апошняй магчымасці развітацца са сваімі блізкімі, ім не выдаюцца іх целы для пахавання, а месца пахавання трымаецца ў таямніцы.*

*Смяротнае пакаранне супярэчыць прынцыпам гуманізму, маралі і агульначалавечым каштоўнасцям, прынцыпам усіх рэлігій, якія вызнаюцца ў Беларусі".*

**Беларусь — адзіная краіна ў Еўропе, дзе да гэтага часу выносяцца і прыводзяцца ў выкананне смяротныя прысуды. Пасля адмены смяротнага пакарання Узбекістанам з 1 студзеня 2008 году наша краіна засталася апошняй з дзяржаваў на постсавецкай прасторы, якая прымяняе дадзены від пакарання.**

**Далучыцца да петыцыі можна на сайце www.spring96.org**

Скажы:

# "НЕ — СМЯРОТНАМУ ПАКАРАННЮ"




Кампанія

*"Праваабаронцы супраць смяротнага пакарання ў Беларусі"*



www.belhelcom.org



www.spring96.org





29 ліпеня 2011 года ў Мінску ў Галерэі «Ў» адбылася прэзэнтацыя дакументальнага фільма **«Прычына смерці — прочырк»**, створанага ў межах кампаніі «Праваабаронцы супраць смяротнага пакарання».

Фільм звяртае ўвагу на пакуты родных асобаў, асуджаных на смяротнае пакаранне. Праваабаронца Валянцін Стэфановіч адзначыў, што беларускае заканадаўства не прадугледжвае выдачу цела і асабістых рэчаў асуджанага ягонай сям'і. Не паведамляецца і месца пахавання. А ў пасведчанні аб смерці, якое выдаецца родным, у графе «прычына смерці» ставіцца прочырк. Галоўная дзеючая асоба фільма — маці Андрэя Жука, расстралянага ў сакавіку 2010 года.

Мечыслаў Грыб адзначыў, што ў першыя гады незалежнасці Беларусі штогод выконвалася каля 30 смяротных прысудаў, але апошнім часам колькасць іх знізілася да 2–3 на год.

---

1 Прэзентацыя дакументальнага фільма «Прычына смерці — прочырк», у першым шэрагу маці расстралянага Андрэя Жука Святлана Жук.

2 Прэзэнтацыя дакументальнага фільма «Прычына смерці — прочырк». Праваабаронцы Валянцін Стэфановіч і Алег Гулак.

3 Валеры Філіпаў, доктар фізіка-матэматычных навук, адзін з першых праваабаронцаў, хто пачаў займацца праблемай адмены смяротнага пакарання ў Беларусі, і каардынатар кампаніі «Праваабаронцы супраць смяротнага пакарання» Андрэй Палуда.

4 Мечыслаў Грыб, заслужаны юрыст Беларусі (1994), Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь 12-га склікання (1994–1996), і каардынатар кампаніі «Праваабаронцы супраць смяротнага пакарання» Андрэй Палуда.

**29** верасня 2011 года былі абвешчаныя вынікі конкурсу і ўзнагароджаныя аўтары лепшых лагатыпаў для кампаніі «Праваабаронцы супраць смяротнага пакарання». Найбольшую колькасць галасоў атрымала праца дызайнера і фатографа **Соф'і Андраюк**. Сярод пераможцаў таксама маладая мастачка **Кацярына Петава** і графічны дызайнер з Гародні **Зміцер Гупянец**.

1 Аўтар лагатыпа — Соф'я Андраюк

2 Аўтар лагатыпа — Зміцер Гупянец

3 Аўтар лагатыпа — Кацярына Петава

**28** лістапада 2011 года з'яўляецца Заява беларускіх праваабаронцаў:

*Беларускія праваабаронцы рашуча асуджаюць патрабаванне дзяржаўнага абвінаваўцы аб прымяненні смяротнага пакарання ў дачыненні да* ***Дзмітрыя Канавалава*** *і* ***Уладзіслава Кавалёва****, абвінавачаных па справе аб тэракце ў Мінску 11 красавіка 2011 г.*

*Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь і міжнародныя пагадненні, падпісаныя дзяржавай, гарантуюць грамадзянам натуральнае і неад'емнае права на жыццё, замацоўваюць гэтае права як найвышэйшую каштоўнасць.*

*Смяротнае пакаранне не мае сэнсу.*

*Яно не выпраўляе ўчыненага, не аднаўляе справядлівасць.*

*Яно не вядзе да пакаяння і ўсведамлення злачынцам сваёй віны.*

*Яно не спыняе іншых злачынцаў і толькі робіць жорсткім грамадства.*

*Шчыра падзяляючы гора і пакуты ахвяраў злачынстваў і іх родных, мы канстатуем, што працэдура смяротнага пакарання, прынятая ў Беларусі, пры якой целы расстраляных не выдаюцца, не паведамляецца пра месца пахавання і час пакарання, — гэта бесчалавечнае абыходжанне з сем'ямі асуджаных да смерці. Неабходна спыніць эскалацыю жорсткасці і гвалту. Смяротнае пакаранне як помста і рудымент сярэднявечнай жорсткасці непрымальнае з маральнага пункту гледжання нават тады, калі яно ўжываецца ў дачыненні да людзей, чыя віна ва ўчыненні асабліва цяжкіх злачынстваў цалкам даказана і не выклікае абгрунтаваных сумневаў.*

*Разам з тым відавочна, што ні адна праваахоўная і судовая сістэма не застрахавана ад памылак. Але судовыя памылкі не могуць быць выпраўлены пасля ўжывання смяротнага пакарання.*

*Немагчыма ігнараваць тое, што, паводле ацэнак адвакатаў, праваабаронцаў, некаторых пацярпелых і простых грамадзян, расследаванне справы аб тэракце ў мінскім метро і ўвесь судовы працэс над Дзмітрыем Канавалавым і Уладзіславам Кавалёвым не быў ясным і пераканаўчым.*



---

Любоў Кавалёва, маці расстралянага Уладзіслава Кавалёва.

*Назіральнікі адзначаюць сур'ёзныя працэсуальныя парушэнні ў ходзе папярэдняга расследавання і судовага разбору. Сур'ёзна абмяжоўвалася права абвінавачаных на абарону. Не былі належным чынам правераны заявы абвінавачаных аб прымяненні да іх фізічнага і псіхалагічнага ціску на папярэднім следстве. Шматлікія хадайніцтвы абароны, накіраваныя на выкараненне недакладнасцей і супярэчнасцей у доказнай базе, неабгрунтавана адхіляліся.*

*Падчас судовага працэсу некаторыя пацярпелыя выказалі сумнеў у дачыненні Канавалава і Кавалёва да тэракта. Дзясяткі тысяч грамадзян краіны падпісалі петыцыю аб непрымяненні смяротнага пакарання ў дадзенай справе.*

*Мы лічым, што калі следствам устаноўлена, што Канавалаў і Кавалёў маюць непасрэднае дачыненне да тэракта ў метро, то ў інтарэсах грамадскай бяспекі неабходна захаваць жыцці гэтых людзей, якія валодаюць найкаштоўнейшай інфармацыяй пра абставіны гэтай трагедыі.*

*Жыццё Канавалава і Кавалёва павінна быць захавана таму, што ў будучыні не выключана магчымасць з'яўлення новых звестак пра тэракт у Мінску 11 красавіка 2011 г. Найважнейшым вынікам дадзенай справы павінна стаць не пакаранне абвінавачаных, а ўпэўненасць грамадства ў тым, што выяўлены ўсе матывы, абставіны і датычныя асобы.*

*У інтарэсах гуманнасці і бяспекі грамадства патрабуем не ўжываць смяротнае пакаранне ў дачыненні да Дзмітрыя Канавалава і Уладзіслава Кавалёва!*

**Алег Гулак,** Беларускі Хельсінкскі камітэт;

**Алена Танкачова, Вольга Смалянка,** Цэнтр прававой трансфармацыі;

**Таццяна Рэвяка,** Беларускі дом правоў чалавека;

**Эніра Браніцкая,** Офіс па правах людзей з інваліднасцю;

**Андрэй Палуда,** кампанія «Праваабаронцы супраць смяротнага пакарання»;

**Валянцін Стэфановіч,** ПЦ «Вясна».



Суд над Уладзіславам Кавалёвым і Дзмітрыем Канавалавым.

30 лістапада 2011 года Вярхоўны Суд Беларусі вынес прысуд па справе Дзмітрыя Канавалава і Уладзіслава Кавалёва. Яго агучыў першы намеснік старшыні Вярхоўнага Суда Аляксандр Федарцоў. Канавалаў і Кавалёў прызнаныя вінаватымі ў датычнасці да выбуху на станцыі метро «Кастрычніцкая» ў красавіку 2011 года і ў ліпені 2008 года ў Мінску на Дзень Рэспублікі. Тым часам амаль 50 тысяч людзей у інтэрнэце выказаліся за тое, каб падазраваным у выбухах пакінуць жыццё. Задоўга да пачатку працэсу каля Дома правасуддзя на вуліцы Сямашкі сабралася шмат журналістаў, праваабаронцаў і сведак, што ўдзельнічалі ў працэсе. Каля судовай залы пачалі глушыць мабільную сувязь. У залу суда не пусцілі фота- і відэажурналістаў. Прысуд на 114 старонках зачытваўся цалкам па просьбе пацярпелых па справе на працягу 4,5 гадзіны. Суд устанавіў, што Канавалаў учыніў тэракт 11 красавіка 2011 года ў Мінску, зрабіўшы выбуховае прыстасаванне ў Віцебску. Кавалёў разам з Канавалавым даставіў выбуховае прыстасаванне на здымную кватэру і дапамагаў Канавалаву прывесці прыстасаванне ў баявы стан. Канавалаў прызнаны вінаватым у тым, што прывёз прыстасаванне ў метро і ўчыніў выбух. Суддзя называе прозвішчы ўсіх 15 загінулых і каля 200 параненых. Канавалаў прызнаны вінаватым таксама ў ажыццяўленні выбуху на Дзень Рэспублікі 4 ліпеня 2008 года ў Мінску. Уладзіслаў Кавалёў і па гэтым эпізодзе прызнаны вінаватым у неданясенні. Суд прызнаў Уладзіслава Кавалёва вінаватым у саўдзеле ў тэракце 11 красавіка. 30 лістапада 2011 года Вярхоўны Суд прыгаварыў Канавалава і Кавалёва да смяротнай кары, прызнаўшы, што яны «ўяўляюць выключную небяспеку для грамадства». Канавалаў прызнаны вінаватым у злосным і асабліва злосным хуліганстве, наўмысным знішчэнні маёмасці, незаконным набыцці, захоўванні, перавозцы выбуховых рэчываў і выбуховых прылад, тэрарызме, спалучаным з забойствам людзей. Кавалёў прызнаны вінаватым у злосным і асабліва злосным хуліганстве, наўмысным знішчэнні маёмасці, незаконным набыцці, захоўванні, перавозцы выбуховых рэчываў і выбуховых прылад, неданясенні аб падрыхтоўцы асабліва цяжкага злачынства, а таксама ў дапамозе тэрарызму.

1 снежня 2011 года **Любоў Кавалёва**, маці Уладзіслава Кавалёва, звярнулася да кіраўніка дзяржавы з прашэннем аб памілаванні яе сына.

15 снежня Камітэт ААН па правах чалавека зарэгістраваў індывідуальнае паведамленне аб парушэнні права на жыццё і права на справядлівы суд, якое накіравала маці асуджанага да расстрэлу Уладзіслава Кавалёва Любоў Кавалёва. Справа зарэгістравана пад нумарам 2120/2011. На адрас дзяржавы накіравана нота з патрабаваннем не прыводзіць у выкананне смяротны прысуд да разгляду скаргі Камітэтам ААН па правах чалавека.

---

Суд над Уладзіславам Кавалёвым і Дзмітрыем Канавалавым.

15 сакавіка 2012 года — афіцыйная дата расстрэлу Уладзіслава Кавалёва і Дзмітрыя Канавалава.

14 сакавіка ўвечары па тэлебачанні перадалі паведамленне, што Аляксандр Лукашэнка не памілаваў Уладзіслава Кавалёва і Дзмітрыя Канавалава. 16-м сакавіка была датавана папера з Вярхоўнага Суда, што прысуд ужо прыведзены ў выкананне.

Маці расстралянага **Любоў Кавалёва** лічыць, што гэтым былі парушаны правы сына, які не паспеў падаць наглядную скаргу. Ён паспеў напісаць толькі прашэнне аб адтэрміноўцы выканання прысуду, пакуль складаецца скарга. Таксама ўлады не сталі чакаць, пакуль скаргу Уладзіслава Кавалёва разгледзіць Камітэт ААН па правах чалавека — хаця адтуль дасылалі просьбу да беларускага боку не расстрэльваць асуджанага падчас разгляду скаргі.

*«Але ўжо ні 13, ні 14 сакавіка да яго чамусьці не пускалі адваката Станіслава Абразея. Яны з Уладзіславам так і не падалі наглядную скаргу, бо ім не далі сустрэцца»*, — гаворыць Любоў Кавалёва.

Маці апошні раз бачыла сына падчас спаткання 11 сакавіка. Любоў Кавалёва і сястра расстралянага Таццяна не ўпэўненыя, што ў пасведчанні аб смерці напісалі сапраўдную дату.

*«Супрацоўніца ЗАГСа мяне завяла ў кабінет. Там у камп'ютары паглядзела дату — 15 сакавіка. Кажуць, што нейкія звесткі ім мусілі даслаць пра выкананне прысуду. Так і запісалі ў пасведчанне. А ці праўда гэта, ці прыдуманая дата — мы не ведаем»*, — кажа Любоў Кавалёва.

Родным пакаранага смерцю ў Віцебск даслалі адзенне і нават прадукты, якія ён не паспеў спажыць. Але сярод рэчаў няма запісаў, якія Уладзіслаў Кавалёў вёў падчас судовых паседжанняў.

Гэтыя запісы ён трымаў у жоўтай папцы — тыя, хто прысутнічаў на судзе, верагодна, памятаюць, што з гэтай папкай Уладзіслава Кавалёва заўжды дастаўлялі на судовае паседжанне.

*«Ён прасіў, каб мы захавалі гэтую папку, прасіў у лістах і падчас апошняга спаткання. Але з СІЗА КДБ мне даслалі рэчы, прадукты, лісты і фотаздымкі — праўда, не ўсе. Запісы Улада зніклі ў СІЗА КДБ»*, — кажа маці пакаранага смерцю Любоў Кавалёва.



Уладзіслаў Кавалёў, расстраляны 15 сакавіка 2012 года.

Яна дакладна не ведае, што пісаў падчас суду Уладзіслаў. Але згадвае, што канваіры ўвесь час падглядвалі цераз плячо, што ён там занатоўвае... Цяпер Любові Кавалёвай шмат што ў паводзінах сына і яго ахоўнікаў падаецца важным і шматзначным:

*«11 сакавіка, калі мы прыехалі на спатканне з Уладам, з намі ўсе былі падкрэслена ветлівыя. Але спатканне было нечаканым: за дзень да яго мне патэлефанавалі і прапанавалі прыехаць. На той час Таццяна, мая дачка, не паспела нават напісаць заяву на спатканне, але яго нам далі. Я прасіла перанесці сустрэчу хаця б на дзень — хвалявалася, раптам не будзе квіткоў да Мінска. Але мне сказалі, што спатканне прызначана на 11-га, не раней і не пазней.. А 13 сакавіка да Улада ўжо не пусцілі адваката. Можа, яго ўжо не было сярод жывых... Ён так апошні раз глядзеў мне ў вочы, нібыта хацеў нешта сказаць! І ў вачах былі слёзы. А потым супрацоўнікі СІЗА мне нешта сказалі, накшталт “забярыце хутчэй рэчы, няма ім чаго ў нас валяцца”... Але тады я не зразумела, пра што яны гаварылі».*

Рэчы даслалі поштай. 22 сакавіка Любоў Кавалёва атрымала пасылку вагой больш за 26 кілаграмаў. У вялікую торбу, якая была ў сына, склалі ўсё: адзенне, лекі, санітарна-гігіенічныя прылады, чыстыя канверты, паштоўкі, якія не паспеў адправіць. Была сярод рэчаў і жоўтая папка, але пустая. А яшчэ было шмат прадуктаў — алей, кава, гарбата, печыва, сушкі, сухары.

Рэчы і ежа, якія атрымала па пошце пасля расстрэлу сына Любоў Кавалёва. 22 сакавіка 2012 года.

У красавіку 2012 года для здымкаў дакументальнага фільма «Убыл по приговору» актывісты кампаніі «Праваабаронцы супраць смяротнага пакарання» пры супрацоўніцтве з нямецкім аддзяленнем «Amnesty International» накіраваліся ў Берлін да **Алега Алкаева** — былога начальніка СІЗА № 1 г. Мінска, аўтара кнігі «Расстрэльная каманда». Пры ўдзеле Алега Алкаева былі прыведзеныя ў выкананне каля 150 смяротных прысудаў. З Алегам Алкаевым мы сустрэліся ў «рускім раёне» Берліна ў будынку гандлёвага цэнтра, салоне, дзе прадаецца кухонная мэбля. Гэта тое месца, дзе працуе былы начальнік СІЗА № 1 пасля таго, як у 2001 годзе ён выкрыў таямніцу выкарыстання расстрэльнага пісталета ў пазасудовых пакараннях апанентаў улады і вымушаны быў пакінуць Мінск.

Алег Алкаеў пра нявыдачу цела расстралянага сваякам: «*З'яўляюцца таямніцай месца пахавання, месца выканання прысудаў і персанальны склад групы. Вось гэтыя тры рэчы, якіх я не называў і ніколі нікому не назаву. Гэта сапраўды сакрэт. Навошта я буду бударажыць грамадскасць, падводзіць супрацоўнікаў? Гэта выключаецца. Усё астатняе пра мяне распавялі нашы газеты. Там напісана, што я кіраўнік групы, што я столькі народу расстраляў. Але ёсць адна памылка: расстраляў крыху больш. 134 было агучана на момант майго допыту з 22 на 23 лістапада, а пасля праз некалькі дзён яшчэ былі расстрэлы. І ў агульнай колькасці іх можа быць каля 150. Я ўжо не памятаю дакладна, але памятаю, што працягвалі працаваць. Месца пахавання — каму яно патрэбнае? Пойдуць людзі туды з рыдлёўкамі раскопваць — што яны там знойдуць? Гэта будзе непрыстойна і не па-чалавечы. Ды і не бачу я асаблівага сэнсу, каб ушаноўваць памяць пакараных смерцю, — за імі страшныя злачынствы. Ніякага гераізму ў гэтым няма. А закон прымае парламент. Напішуць яны і прымуць закон, каб аддаваць нябожчыкаў сваякам, — будуць аддаваць. Гэта інерцыя мыслення і спадчына СССР — гэта я так для сябе тлумачу. Калі былі рэпрэсіі, былі пазасудовыя пакаранні — "тройкі" судзілі. Пры ВЧК адзінаасобна прымалі рашэнне кіраўнікі гэтых органаў, тады ніякіх размоў ісці не магло пра выдачу целаў, бо любое цела магло справакаваць бунт. І любое пахаванне магло выліцца ў зусім не мірную дэманстрацыю. Занадта гарачая была сітуацыя. І гэтая інерцыя захавалася па сённяшні дзень. Ёсць такі парадокс*



Падчас здымкаў дакументальнага фільма «Убыл по приговору», Берлін, красавік 2012 года. «Убыл по приговору» — словы, якія ў сучаснай Беларусі чуюць сваякі расстраляных. Гэта стандартная фраза, якой паведамляюць пра тое, што чалавек пакараны смерцю, і ніхто, нават начальнік СІЗА, не мае права прамовіць слова «расстрэл». У фільме «Убыл по приговору» разглядаецца праблема выканаўцаў прысуду, якія ад імя дзяржавы прыводзяць прысуд у выкананне. Пра адчуванні і эмоцыі выканаўцаў расстрэлаў у фільме распавядае чалавек, які асабіста браў удзел у пакараннях смерцю, Алег Алкаеў, былы начальнік СІЗА № 1 г. Мінска, аўтар кнігі «Расстрэльная каманда». Фільм зняты ў межах кампаніі «Праваабаронцы супраць смяротнага пакарання ў Беларусі» Рэжысёр Віктар Трацякоў, сцэнар Паліны Сцепаненка.

*ва ўсёй гэтай сітуацыі: калі за суткі да выканання смяротнага прысуду ў камеры чалавек будзе забіты ці скончыць жыццё самагубствам, то цела могуць аддаць. У Мінску такі выпадак быў — двое павесіліся на адной вяроўцы па чарзе. Мяне спрабавалі абвінаваціць, што я "ўхіліўся ад прысуду" і не збярог іх. І ў Казахстане ў мяне такія выпадкі былі. Адзін у мяне пацікавіўся, я яму патлумачыў: калі расстраляюць — цела не аддадуць, калі сам памрэш — аддадуць. Ён на другі дзень павесіўся. І напісаў мне: "Дзякуй за параду!" Вось і разумей дваяка. Напэўна, шчыра дзякаваў».*

Алег Алкаеў пра выканаўцаў прысуду: *«Гэты бар'ер усе праходзяць. Я цікавіўся ў сваіх супрацоўнікаў, якія прысутнічалі пры выкананні смяротнага прысуду. Усе практычна аднолькава адчувалі стрэсавую сітуацыю. Ну, незвычайная гэта з'ява, вельмі невычайная. Таму эмацыйны стан у першы раз ва ўсіх аднолькавы. Гэта запаволенае ўспрыманне часу. Пра гэта я гутарыў з супрацоўнікамі. Час замаруджваецца да таго, што выразна бачыш, як пісталет працуе, як пры запаволеных здымках. Пытаўся ў іншых — яны тое самае адчувалі ў першы раз. А пасля... Пасля ўсё запрацавала... запрацавала так, як мае быць. І пісталет запрацаваў, і рэакцыя стала іншай. Калі супрацоўнік паступаў у групу, яго напачатку нават блізка не падпускалі, ён на адлегласці на ўсё глядзеў. Таму што непрадказальна гэта ўсё. Можна прытомнасць страціць. Хто ведае, у каго якая псіхіка. Глядзелі на яго стан. Відовішча не з прыемных... А на наступны раз — ён ужо падыходзіў бліжэй. Забойства — гэта заўсёды забойства, нават калі па законе. Ніякай рамантыкі тут няма. Хваліцца тут няма чым асабліва. І гераізму няма. Гэта не тое месца, дзе можна атрымаць сабе ордэн на грудзі. Я ніколі не рамантызаваў, не гераізаваў гэтую прафесію. Калі гэта ўваходзіць у працоўны распарадак і функцыянальныя абавязкі, прывыкае чалавек. Ніхто ж яго не прымушае. Яму прапаноўваюць. Па сваіх здольнасцях ён ацэньвае: можа ці не можа. Атрымалася, што можа. Ён асабіста перажывае, але не настолькі, каб страчваць прытомнасць. Зазвычай, гэта былі людзі нават малапітушчыя. Не залівалі гора шклянкамі. З устойлівай псіхікай. Таму я не бачыў ніякіх праблем. А там... Ступень віны... Вы думаеце, што той, хто на курок націскае, ён адчувае сябе больш вінаватым за іншых? Там гэта віна на ўсіх падзяляецца: адзін трымае, другі на курок націскае. Таму асабліва не вылучаліся тыя, хто страляў, хто трымаў».*

---

Падчас здымкаў дакументальнага фільма «Убыл по приговору», Берлін, красавік 2012 года. Фільм зняты ў межах кампаніі «Праваабаронцы супраць смяротнага пакарання ў Беларусі» Рэжысёр Віктар Трацякоў, сцэнар Паліны Сцепаненка.

Групай валанцёраў кампаніі «Праваабаронцы супраць смяротнага пакарання» створаныя анімацыйныя стужкі **«Палёт»**, **«Чарга»**, **«Исполнитель»**.

1 Кадр з анімацыйнай стужкі «Палёт».

2 Кадр з анімацыйнай стужк «Чарга».

3 Кадр з анімацыйнай стужк «Исполнитель».

Сфармуляваны шэраг аргументаў супраць смяротнага пакарання, паводле якіх пачынаюць здымацца дакументальныя міні-фільмы пад агульнай назвай «Шэсць аргументаў супраць смяротнага пакарання».

Аргументы выглядаюць так:

**Аргумент 1. Судовая памылка, незваротнасць смяротнага пакарання.**

**Аргумент 2. Выканаўцы — прафесійныя ка́ты, якія забіваюць ад імя дзяржавы.**

**Аргумент 3. Рэлігійны — «не забівай!»**

**Аргумент 4. Забойствы палітычных апанентаў, масавыя рэпрэсіі.**

**Аргумент 5. Катаванне сваякоў расстралянага — нявыдача цела, непаведамленне даты выканання прысуду.**

**Аргумент 6. Неэфектыўнасць у папярэджанні злачынстваў.**

---

**1** Малюнак для фільма «Шэсць аргументаў супраць смяротнага пакарання», аўтар Віктар Трацякоў.

**2** Працоўны момант падчас здымкаў дакументальнага фільма «Шэсць аргументаў супраць смяротнага пакарання».

**3** Эўгеніюс Пейкшцяніс, дырэктар Музея генацыду жыхароў Літвы ў Вільні, у камеры, дзе адбываліся расстрэлы, каля акна, праз якое выцягвалі цела ў грузавік, распавядае пра расстрэлы ў СССР. Музей генацыду жыхароў Літвы садзейнічаў здымкам дакументальных фільмаў пра смяротнае пакаранне ў межах кампаніі «Праваабаронцы супраць смяротнага пакарання».

**4–5** Месцы расстрэлаў у Оршы пры СССР у часы сталінізма. Кадры з фільма «Шэсць аргументаў супраць смяротнага пакарання».

Актывісты кампаніі «Праваабаронцы супраць смяротнага пакарання ў Беларусі» бяруць удзел у працы V Сусветнага кангрэса супраць смяротнага пакарання, які праходзіў у Мадрыдзе 12–15 чэрвеня 2013 года. Кангрэс арганізаваны асацыяцыяй «Разам супраць смяротнага пакарання» **(Ensemble Contre la Peine de Mort (ECPM))** пры сумеснай падтрымцы ўрадаў Іспаніі, Нарвегіі і Швейцарыі.

15 чэрвеня ўдзельнікі V Сусветнага кангрэса супраць смяротнага пакарання зладзілі шэсце па вуліцах Мадрыда. Праваабаронцы з Беларусі бралі ўдзел у гэтай акцыі. Шэсце распачалося і скончылася каля будынка гарадскога кінатэатра «Callao City Lights», дзе праводзілася цырымонія афіцыйнага закрыцця кангрэса. Паўстагоддзя таму тут адбыўся паказ мастацкага фільма «Кат» («El verdugo», 1963) іспанскага рэжысёра і сцэнарыста Луіса Гарсія Берланга.

14 чэрвеня 2013 года падчас кангрэса адбыўся круглы стол «Еўропа: стратэгія будучыні». У мерапрыемстве браў удзел праваабаронца **Валянцін Стэфановіч.**

*«Адносна грамадскай думкі ў Беларусі я вылучыў бы два аспекты,* — сказаў Валянцін Стэфановіч. — *У 2011 годзе быў учынены тэракт у мінскім метро, падчас якога загінулі 15 чалавек. Гэта было ўпершыню ў Мінску, і ўсё грамадства было шакаванае, бо ў нас ніколі такія злачынствы не ўчыняліся. Здавалася б, грамадская думка ў яшчэ большай ступені павінна павярнуцца ў падтрымку смяротнага пакарання, але адбылося наадварот — многія людзі, канкрэтна ў гэтым выпадку, сталі выступаць супраць смяротнага пакарання, бо не давяралі праведзенаму следству і прысуду, што быў вынесены ў дачыненні да двух маладых людзей, якіх абвінавацілі ва ўчыненні тэракту. Цяпер мы можам назіраць сітуацыю, калі людзі выказваюцца за смяротнае пакаранне, за выключэннем "справы тэрарыстаў", якая была "несправядлівай". У 2011 годзе пасля вынясення прысуду Кавалёву і Канавалаву грамадскі рэзананс быў настолькі вялікі, што ўпершыню прадстаўнікі дзвюх найбуйнейшых рэлігійных канфесій — праваслаўнай і каталіцкай — публічна заявілі пра сваю пазіцыю адносна смяротнага пакарання. Калі ўлады спасылаюцца на рашэнні рэферэндуму 1996 года, яны забываюць, што гэтае пытанне пра смяротнае пакаранне мела неабавязковы характар, мела так званы дарадчы статус. Гэта па-першае, а па-другое, у 1996 годзе, калі праводзіўся рэферэндум,*



**1** Падчас кангрэса ў Мадрыдзе.

**2** Праваабаронцы Тамара Чыкунова і Андрэй Палуда падчас кангрэса ў Мадрыдзе.

**3–4** Актывісты кампаніі «Праваабаронцы супраць смяротнага пакарання» падчас кангрэса ў Мадрыдзе.

*у Беларусі не было пажыццёвага зняволення, а было толькі смяротнае пакаранне і 15 гадоў пазбаўлення волі. Гэта таксама вельмі важны фактар. Грамадская думка не статычная, яна змяняецца. Але ў грамадстве няма дыялогу па смяротным пакаранні — гэтую праблему не абмяркоўваюць. Грамадскія арганізацыі могуць працаваць у гэтым кірунку, але іх магчымасці вельмі абмежаваныя, яны не могуць выйсці на дзяржаўнае тэлебачанне. Мы можам толькі распаўсюджваць інфармацыю ў інтэрнэце і арганізоўваць вулічныя мерапрыемствы, якія не заўсёды могуць абысціся без наступстваў».*

---

**1** Шэсце падчас кангрэса ў Мадрыдзе.

**2** Падчас кангрэса на круглым стале «Еўропа: стратэгія будучыні», выступае Валянцін Стэфановіч.

5 кастрычніка 2013 года ў Беластоку адбыўся канцэрт «Апошні золак», прысвечаны тэме смяротнага пакарання ў Беларусі. Дзякуючы онлайн-трансляцыі яго змаглі ўбачыць тысячы беларусаў.

Запіс праекту адбываўся ў зале Беластоцкай філармоніі. Па дзве песні ад кожнага выканаўцы было прадстаўлена на канцэрце. Кампазіцыі былі адмыслова прысвечаныя тэме смяротнага пакарання. **Лявон Вольск**і праспяваў пра ўкрыжаванне, **Аляксандр Памідораў** — пра пакаранне асуджаных у газавых камерах, **Ганна Хітрык** выбрала тэмай песні гільяціну, **Алесь Дзянісаў** звярнуўся да тэмы расстрэлу, **Наста Шпакоўская** напісала песню пра электрычнае крэсла, **Віктар Рудэнка** праспяваў пра атруту, а **Зміцер Вайцюшкевіч** — пра шыбеніцу.

10 кастрычніка 2013 года, у Сусветны дзень барацьбы супраць смяротнага пакарання, у інтэрнэце з'явілася эфірная версія музычнага праекта «Апошні золак».

«Апошні золак» працягвае традыцыі такіх сумесных музычных праектаў, як «Народны альбом», «Я нарадзіўся тут», «Святы вечар». Пры гэтым у адрозненне ад папярэднікаў ён быў створаны ў рэжыме рэальнага часу і акрамя музыкі ўключае багатую візуальную частку, за якую адказвалі пескаграф **Наста Шастак** і рэжысёр **Павел Бандзіч**. Ініцыятарам праекта з'яўляецца **Праваабарончы цэнтр «Вясна».**

— *Гэта праект выканаўцаў розных музычных стыляў і розных жыццёвых поглядаў, якія аб'ядналіся вакол адной тэмы, што сведчыць пра яе важнасць для грамадства,* — адзначае каардынатар кампаніі **Андрэй Палуда**. — *Мы вельмі хваляваліся, таму што для нас гэта першы творчы праект такога маштабу, але выніковы прадукт і медыйны рэзананс сведчаць аб яго поспеху. Вялікі дзякуй творчай групе праекта і ўсім яго ўдзельнікам за іх уклад у нашу агульную справу.*

Рэалізацыяй праекта займалася творчая каманда партала Tuzin.fm.

**1–2** Рэпетыцыя канцэрта «Апошні золак», Беласток.

**3–4** Канцэрт «Апошні золак», Беласток.

29 кастрычніка 2014 года маці **Аляксандра Грунова**, асуджанага да смяротнага пакарання, атрымала па пошце асабістыя рэчы і вопратку сына. Пра гэта паведаміў праваабаронца **Леанід Судаленка**: *«Патэлефанавала Вольга Міхайлаўна Грунова і сказала, што атрымала на пошце некалькі паштовых скрыняў. Яна адчыніла іх і ўбачыла чаравікі і форму свайго сына. Ніякай афіцыйнай паперы пра расстрэл няма, але ўлічваючы адхіленне памілавання, выказванне Лукашэнкі і тое, што прыйшлі рэчы, то не даводзіцца сумнявацца, што ў адносінах да Аляксандра Грунова быў выкананы смяротны прысуд».*

---

**1** Асуджаны да смяротнага пакарання Аляксандр Груноў.

**2** Вольга Грунова з турэмнай формай расстралянага сына.

**3** Крымінальны кодэкс, які праваабаронца Леанід Судаленка перадаў у камеру смяротнікаў Аляксандру Грунову. У тэксце адзнакі, зробленыя А. Груновым.

**4** Праваабаронца Леанід Судаленка.

**5** Паліна Сцепаненка і Андрэй Палуда з формай смяротніка, якую перадала кампаніі «Праваабаронцы супраць смяротнага пакарання» Вольга Грунова.



1

ванной группой.

13. Под общеопасным способом понимается способ совершения преступлен характеризующийся большой разрушительной силой или иным образом создаю опасность гибели людей, причинения телесных повреждений, иных тяжких посл ствий (взрыв, поджог, затопление и др.).

14. Под термином «заведомо» понимается признак, указывающий, что лицу, вершающему преступление, известны юридически значимые обстоятельства, п дусмотренные настоящим Кодексом.

15. Под систематичностью понимается признак, указывающий на соверше лицом более двух тождественных или однородных правонарушений.

**Комментарий**

1. Определения терминов в статье 4 имеют нормативный характер и подле строгому толкованию. При этом необходимо учитывать, что предлагаемая в стат трактовка терминов относится исключительно к уголовному закону.

2. Устанавливая круг лиц, относящихся к близким родственникам

3



4




2



5

18 красавіка маці асуджанага на смерць **Паўла Селюна** даведалася ад адваката, што прысуд прыведзены ў выкананне. Адвакат прыйшла на сустрэчу з падабаронным, аднак у СІЗА ёй паведамілі, што Сялюн «убыл по приговору», што значыць расстрэл.

Ніякіх пісьмовых дакументаў ці паведамленняў сваякам Паўла не даслалі. Маці да апошняга не ведала рашэння камісіі аб памілаванні, дату выканання прысуду, яна збіралася на спатканне з сынам.

Праваабаронца **Уладзімір Хільмановіч** распавёў пра тое, як забіралі рэчы расстралянага Паўла Селюна: *«Мне давялося забіраць рэчы расстралянага чалавека. Забіраць разам з яго маці, ад чаго гэта было асабліва цяжка псіхалагічна. Забойства аднаго чалавека нельга выправіць смерцю іншага. Гэта ў Старым Запавеце быў прынцып "вока за вока, зуб за зуб". Цяперашні хрысціянскі свет жыве пераважна паводле евангельскіх прынцыпаў Новага Запавету. Смяротнае пакаранне ліквідавана ў Еўропе ўсюды. І толькі Рэспубліка Беларусь застаецца апошняй выспай дзікай расправы над злачынцамі, узорам сярэднявечнага дзікунства.*

*Мабільныя тэлефоны, пусты партманет, плыты і касеты расстралянага, нарэшце, ягоныя дзяга і пантофлі... Дзве кардонныя скрынкі рэчаў, якія застаюцца маці. Сама яна дагэтуль не верыць, што яе сын учыніў такое страшнае злачынства. У гэта сапраўды цяжка паверыць, калі чытаеш ягоныя лісты, якія ён пісаў ужо ў зняволенні, чакаючы спярша найгоршага прысуду, а пасля непазбежнага яго выканання. "Убыл по приговору" — так гэта называецца на іхняй нялюдскай мове, якая заўсёды камуфлюе і хавае сапраўдны сэнс з'явы. Дзейснае заканадаўства Рэспублікі Беларусь прадугледжвае не толькі расстрэл за асабліва цяжкія злачынствы, у ім закладзена таксама фактычнае катаванне блізкіх падсуднага. Цела расстралянага, паводле яшчэ сталінскага палажэння закона, сваякам не аддаецца, і месца яго пахавання таксама не паведамляецца. У дзяржаве, якую цяжка назваць прававой, гэта можа спараджаць розныя домыслы — ці сапраўды расстралялі чалавека, ці не выкарысталі яго цела для нейкіх доследаў, у анатамічных мэтах? А з іншага боку, спараджае ў сваякоў асуджанага на смерць ілюзорную надзею на тое, што ён жывы. Сапраўды вельмі жорсткі від псіхалагічнага катавання! Не ведаю, як вялося следства ў канкрэтным выпадку, але нават беглы агляд зместу калекцыі музыкі гэтага асуджанага на смерць маладога хлопца прыводзіць да высновы, што з псіхікай у яго былі праблемы, што здаровы чалавек такога слухаць не будзе. А псіхічна хворых нельга забіваць, іх трэба ізаляваць ад грамадства, але ніяк не забіваць. Але закон фактычна не пакідае выбару суддзі.*

*Пакаранне смерцю ніколькі не змяншае зло, а толькі памнажае яго і павялічвае нянавісць».*

---

**1** Маці расстралянага Тамара Сялюн забрала рэчы сына пасля расстрэлу.

**2** Пасведчанне аб смерці расстралянага Паўла Селюна.

лакаты з цыкла «Шэсць аргументаў супраць смяротнага пакарання». Аўтар **Алег Аблажэй**. 2014 год.

Плакаты з цыкла «Шэсць аргументаў супраць смяротнага пакарання». Аўтар Алег Аблажэй. 2014 год.

Плакаты з цыкла «Смяротнае пакаранне — гэта забойства». Стылізацыя фігурак, вылепленых з хлеба ў камеры смяротнікаў. Аўтар **Віктар Трацякоў**. 2014 год.

Плакаты з цыкла «Смяротнае пакаранне — гэта забойства». Аўтар Віктар Трацякоў. 2014 год.


Тыдзень супраць смяротнага пакарання ў Беларусі
5-10.10.2014
Смяротнае пакаранне-гэта ЗАБОЙСТВА!
НЕ
ВЯСНА
забірай жыццё!


Тыдзень супраць смяротнага пакарання ў Беларусі
5-10.10.2014
Смяротнае пакаранне-гэта ЗАБОЙСТВА!
НЕ
ВЯСНА
забірай жыццё!


Тыдзень супраць смяротнага пакарання ў Беларусі
5-10.10.2014
Смяротнае пакаранне-гэта ЗАБОЙСТВА!
НЕ
ВЯСНА
забірай жыццё!


з 5-га па 10-га кастрычніка 2014 года

З 5 па 10 кастрычніка 2014 года пад сloганам «Смяротнае пакаранне — гэта забойства» адбыўся Тыдзень супраць смяротнага пакарання. У Мінску прайшлі імпрэзы: выстава плакатаў віленскага мастака **Алега Аблажэя** і працаў з сусветна вядомага праекта Death Is Not Justice; прэзентацыя аўтарскага праекта фотажурналіста **Сяргея Балая**, прысвечанага сваякам расстраляных; публічныя лекцыі чэшскага палітыка **Карэла Шварцэнберга** і праваабаронцы **Тамары Чыкуновай**. Першы Тыдзень супраць смяротнага пакарання адбыўся ў 2013 годзе ў межах кампаніі «Праваабаронцы супраць смяротнага пакарання ў Беларусі».

7 кастрычніка адбылася прэзентацыя сумеснага фотапраекта «Вышэйшая мера» фотажурналіста Сяргея Балая і кампаніі «Праваабаронцы супраць смяротнага пакарання ў Беларусі». Фотавыставу наведалі амбасадар Вялікабрытаніі ў Беларусі **Брус Бакнел**, амбасадар Рэспублікі Чэхія ў Беларусі **Мілан Экерт**, старшыня Камітэта па замежных справах Парламента Чэшскай Рэспублікі **Карэл Шварцэнберг**, часовы паверены ў справах Балгарыі ў Беларусі **Івайла Іванаў**, ганаровы госць беларускага Тыдня супраць смяротнага пакарання і адна з гераінь фотапраекта «Вышэйшая мера», грамадская дзеячка **Тамара Чыкунова**, праваабаронцы, прадстаўнікі грамадскасці.

Сяргей Балай распавёў наведвальнікам выставы і гасцям Тыдня супраць смяротнага пакарання аб тым, як узнікла задума такога псіхалагічна складанага праекта:

*«Я даведаўся з даследаванняў, што больш за палову беларусаў шчыра ўпэўненыя ў тым, што смяротнага пакарання ў Беларусі няма, што дзейнічае мараторый. І гэта затым знайшло сваё пацверджанне. Калі я размаўляў з бацькамі і сваякамі асуджаных да вышэйшай меры, яны таксама казалі пра тое, што да таго моманту, пакуль гэтая страшная навіна не прыйшла да іх у дом, яны таксама былі ўпэўненыя, што смяротнага пакарання ў краіне няма».*

Тамара Чыкунова, якая змагалася за адмену смяротнага пакарання ва Узбекістане і дамаглася гэтага, распавяла прысутным паказальную гісторыю са свайго ўласнага жыцця, пра тое, як пакаралі смерцю яе сына, а праз нейкі час высветлілася, што ён быў не вінаваты. Гэтая трагедыя не зламала яе, яна стала змагацца супраць смяротнага пакарання не толькі ў сваёй краіне, але і ў іншых месцах.

У ПЭН-цэнтры прайшоў круглы стол, дзе на сустрэчу са спадаром **Шварцэнбергам** сабраліся сябры гэтай арганізацыі — літаратары **Уладзімір Арлоў**, **Адам Глобус**, кіраўнік Саюза беларускіх пісьменнікаў **Барыс Пятровіч**, кіраўнік «Вясны» **Алесь Бяляцкі**, кіраўнік ПЭН-цэнтра **Андрэй Хадановіч** і дыпламаты — амбасадар Чэхіі **Мілан Экерт**,



1 Пачатак Тыдня супраць смяротнага пакарання. Валянцін Стэфановіч, Тамара Чыкунова, Андрэй Палуда.

2 Маці расстралянага Паўла Селюна Тамара Сялюн на фотавыставе Сяргея Балая «Вышэйшая мера». Кастрычнік 2014 года.

амбасадар Вялікабрытаніі **Брус Бакнэл**, часовы паверaны ў справах Балгарыі ў Беларусі **Івайла Іванаў** і апостальскі нунцый у Беларусі арцыбіскуп **Клаўдыё Гуджэроці**. У Галерэі "Ў" адбылася дыскусія.

Карэл Шварцэнберг сказаў: *«Мы сёння размаўляем пра смяротнае пакаранне, але я не ведаю, як чалавек, які бачыў XX стагоддзе, мог яшчэ не вырашыцца ў гэтым пытанні. Я нарадзіўся ў 1937 годзе, у жорсткія часы, і яшчэ да таго, як скончыў школу, па ўсёй Еўропе былі пакараныя смерцю сотні тысяч чалавек. І калі ўзгадаць гэтыя забойствы па ўсёй Еўропе, то проста нельга сабе ўявіць, як сучасны чалавек можа падтрымліваць смяротнае пакаранне. Так, у гэтым пытанні вельмі вялікую ролю адыгрываюць эмоцыі, таму што калі адбудзецца чарговае страшнае забойства, напрыклад забойства дзіцяці, то адразу знойдуцца людзі, якія пачнуць выступаць за смяротнае пакаранне. Але, па-мойму, гэта не можа стаць канчатковым довадам для смяротнага пакарання. Таму што мы не можам выключыць магчымасць судовай памылкі. А чалавека, пакаранага смерцю, да жыцця ўжо не вернеш. Самы цікавы аргумент, які я калі-небудзь чуў, гэта той, што чалавек на пажыццёвым зняволенні дорага абыходзіцца дзяржаве. Але я спытаю, які выбар вы лічыце лепшым: усё жыццё карміць некалькі такіх вязняў ці, верагодна, пакараць смерцю некалькі невінаватых людзей? І вы не можаце адмаўляць тое, што адным з фундаментальных правоў чалавека з'яўляецца яго права на жыццё. Зразумела, што змаганне супраць смяротнага пакарання падчас з'яўляецца вельмі непапулярным, вам могуць казаць, што вы дапамагаеце злачынцам. Мне таксама вельмі шкада ахвяраў гэтых злачынцаў. Але ці дапаможа гэтым ахвярам тое, што будзе забіты іх забойца? І ў кожнай краіне ў свеце існуюць такія перыяды, калі чалавек павінен супрацьпаставіць сябе большасці. XX стагоддзе нас навучыла гэтаму».*

Праваабаронца і літаратар Алесь Бяляцкі адзначыў, што праблема смяротнага пакарання датычыць і лёсу беларускіх пісьменнікаў. Ён нагадаў, што ў 30-я гады мінулага стагоддзя большасць беларускіх пісьменнікаў была забітая Сталіным. *«Існаванне смяротнага пакарання ў Беларусі сёння я разглядаю як прамы вынік сталінскай эпохі, як сталінскую спадчыну для нашага народа. Вайна, якая зараз ідзе каля Беларусі, дзе кожны дзень гінуць людзі, зніжае каштоўнасць чалавечага жыцця. Гэтае абясцэньванне жыцця, тым не менш, не павінна зніжаць гэтыя стандарты для нас. Беларуская культура, літаратура заўсёды была гуманнай па сваёй сутнасці, заўсёды выступала за чалавечнасць у чалавеку, шукаючы гэтую чалавечнасць нават у самых неспрыяльных варунках і сітуацыях. І беларуская культура — гэта не "русский мир", гэта змаганне за чалавека — чалавека цывілізацыйнага, чалавека еўрапейскага»*, — сказаў Алесь Бяляцкі.

---

**1** Адкрыццё фотавыставы Сяргея Балая «Вышэйшая мера». Сяргей Балай, Тамара, Чыкунова. Мінск, кастрычнік 2014 года.

**2** Чэшскі палітык і грамадскі дзеяч Карэл Шварцэнберг і праваабаронца Алесь Бяляцкі падчас Тыдня супраць смяротнага пакарання. Мінск, 8 кастрычніка 2014 года.

5 кастрычніка 2015 года распачаўся традыцыйны Тыдзень супраць смяротнага пакарання пад слоганам «Забойства — гэта не правасуддзе». Жорсткасць і бесчалавечнасць гэтай меры пакарання сімвалізуе роба смяротніка.

Каардынатар кампаніі «Праваабаронцы супраць смяротнага пакарання ў Беларусі» **Андрэй Палуда** распавёў, што праз выкарыстанне гэтай робы на плакатах Тыдня актывісты кампаніі заклікаюць грамадства задумацца над тым, што стаіць па розныя бакі смяротнага прысуду — пакуты сваякоў расстраляных і цынізм дзяржавы:

*«Да кожнага Тыдня супраць смяротнага пакарання мы рыхтуем адмысловы плакат. У гэтым годзе мы выкарысталі форму Аляксандра Грунова, якую ягонай маці даслалі пасля расстрэлу, — на нашыя патрабаванні аб выдачы асабістых рэчаў асобаў, якія былі прыгавораныя да смяротнага пакарання. Замест асабістых рэчаў (дзённікаў, адзення) дзяржава даслала казённую робу. Гэта выклікала сур'ёзны стрэс у маці Аляксандра Грунова, якая захавала дасланыя ёй рэчы і перадала кампаніі супраць смяротнага пакарання. Такую ж робу даслалі і маці Паўла Селюна. Жанчына вельмі цяжка і эмацыйна перажывала такі цынізм з боку дзяржавы і спаліла форму».*

Плакат да Тыдня супраць смяротнага пакарання — 2015. На плакаце — форма смяротніка Аляксандра Грунова. Аўтар плаката Віктар Трацякоў.

ТЫДЗЕНЬ СУПРАЦЬ

СМЯРОТНАГА ПАКАРАННЯ

Ў БЕЛАРУСІ

5–10.10.2015

СКАЖЫ

НЕ

СМЯРОТНАМУ ПАКАРАННЮ

ВЯСНА

НЕ забірай жыццё!

ЗАБОЙСТВА – ГЭТА НЕ ПРАВАСУДДЗЕ

7 кастрычніка 2015 года ў Вільні ў Музеі ахвяраў генацыду адбылася дыскусія «Забойства па прысудзе», арганізатарамі якой выступілі Беларускі Дом правоў чалавека імя Барыса Звозскава і міжнародная няўрадавая арганізацыя «Freedom House».

Дыскусія стала адным з шэрагу мерапрыемстваў у межах Тыдня супраць смяротнага пакарання ў Беларусі.

Падчас дыскусіі адбыўся прэм'ерны паказ фільма «Шэсць аргументаў супраць смяротнага пакарання» з удзелам рэжысёра **Віктара Трацякова**, сцэнарысткі **Паліны Сцепаненка**, праваабаронцаў **Андрэя Палуды** і **Раісы Міхайлоўскай**. Мадэратарам абмеркавання з'яўляўся **Віціс Юрконіс**, праектны дырэктар «Freedom House» у Літве. У дыскусіі прымаў удзел амбасадар па спецыяльных даручэннях у рэгіёне Усходняй Еўропы (Усходняе Партнёрства) **Жыгімантас Павілёніс**.

Жыгімантас Павілёніс закрануў аспект міжнароднага ўзаемадзеяння ў пытанні адмены смяротнага пакарання. Ён перш за ўсё адзначыў, што яго асабіста вельмі здзіўляе пазіцыя ўладаў Беларусі, якія спадзяюцца на пацяпленне адносін з Еўрасаюзам, улічваючы сітуацыю з правамі чалавека ў краіне:

*«Я асабіста пераканаўся, што беларусы — цалкам еўрапейская нацыя. Але Беларусь не можа ўспрымацца Еўропай як частка еўрапейскай ідэнтычнасці, пакуль не будуць закладзены фундаментальныя асновы дэмакратыі і гуманнасці. Наяўнасць смяротнага пакарання — гэта стаўленне ўладаў да сваіх грамадзянаў. Я шчыра спадзяюся на змены ў сферы правоў чалавека і смяротнага пакарання ў краіне».*

У рамках дыскусіі было закранутае і пытанне пазасудовай расправы ў Беларусі — праваабаронца Раіса Міхайлоўская распавяла пра сувязь невытлумачальных знікненняў апанентаў Аляксандра Лукашэнкі з існаваннем смяротнага пакарання ў Беларусі:

*«Здавалася б, усе гэтыя зніkненні палітыкаў не ўзаемазвязаныя, але ўсіх іх аб'яднаў расстрэльны пісталет. Менавіта расстрэльны пісталет, з дапамогай якога выконвалі смяротныя прысуды, стаў інструментам забойства палітычных апанентаў улады. Гэтыя людзі не былі ні злачынцамі, ні гвалтаўнікамі. Гэта была эліта краіны. І зараз тое, у якім жаласным стане знаходзіцца наша краіна, ёсць лагічны вынік тых палітычных зніkненняў. Мы як праваабаронцы патрабуем, каб тыя крымінальныя справы, у якіх расследуюцца гэтыя зніkненні, разглядаліся ў рэчышчы выканання пазасудовага пакарання смерцю».*

---

**1** 7 кастрычніка 2015 года, Вільня. У Музеі ахвяраў генацыду падчас дыскусіі «Забойства па прысудзе».

**2–5** Кадры з дакументальнага фільма «Шэсць аргументаў супраць смяротнага пакарання».

8 кастрычніка 2015 года па запрашэнні супрацоўнікаў Музея ахвяраў генацыду актывісты кампаніі наведалі мемарыяльны комплекс Тускуленскага парку супакою — гэта тэрыторыя былой сядзібы Антановічаў. У часы СССР тут адбываліся пахаванні расстраляных людзей. Расстрэлы выконваліся ва ўнутранай турме НКГБ у Вільні ў 1944–1947 гадах (цяпер тут Музей ахвяр генацыду). Далёка ў лес энкавэдзісты баяліся вывозіць целы расстраляных, бо там былі партызаны, таму выязджалі ў прыгарад. Але прыгарадам гэтае месца заставалася нядоўга. І ў канцы 50-х гадоў расстрэльныя ямы апынуліся ў горадзе.

---

**1** Музей «Тускулене» — абутак, знойдзены падчас раскопак.

**2** У Тускулене ўсе парэшткі знаходзяцца ў капліцы-калумбарыі, з імі працуюць судовыя эксперты.

**3** Гузікі, знойдзеныя ў расстрэльных ямах.

**4** Супрацоўнік музея гаворыць: *«У 1994–1996 гадах на тэрыторыі Тускуленскай сядзібы адмыслоўцы правялі археалагічныя раскопкі і выявілі 45 ямаў з парэшткамі 724 чалавек»*.

**5** Даведка.

9 кастрычніка 2015 года ў Мінску Праваабарончы цэнтр «Вясна» прэзентаваў дакументальнае выданне «Смяротнае пакаранне ў Беларусі», дзе сабраная інфармацыя па праблеме пачынаючы з 1998 года па сённяшні дзень.

Адметнасцю кнігі з'яўляецца агляд «Гісторыя смяротнага пакарання ў Беларусі», падрыхтаваны гісторыкам і журналістам **Дзянісам Марціновічам**, а таксама вялікае інтэрв'ю з былым начальнікам СІЗА № 1 горада Мінска **Алегам Алкаевым**, пад чыім кіраўніцтвам было прыведзена ў выкананне каля 150 смяротных прысудаў.

Зборнік ствараўся ў межах кампаніі «Праваабаронцы супраць смяротнага пакарання ў Беларусі», якая праводзіцца з 2009 года, аднак працаваць з гэтай праблемай праваабаронцы пачалі на дзесяцігоддзе раней. Пра гэта падчас прэзентацыі распавяла адна з укладальнікаў кнігі **Паліна Сцепаненка**:

*«Праваабарончы цэнтр "Вясна" пачаў займацца гэтай праблемай у 1998 годзе, калі ў арганізацыю звярнуўся чалавек з камеры смяротнікаў — Іван Фамін, які пісаў, што сядзіць там за чужую віну. "Вясна" пачала працаваць з гэтай справай. Івана Фаміна расстралялі, але праз яго прыйшло яшчэ восем лістоў ад смяротнікаў. Гэтыя матэрыялы ўвайшлі ў падрыхтаваны Праваабарончым цэнтрам агляд па сітуацыі з правамі чалавека за 1998 год, які сам ператварыўся фактычна ў бібліяграфічную рэдкасць, таму ўсе гэтыя матэрыялы мы ўключылі ў нашую дакументальную кнігу. Тым больш што гісторыя са справай Фаміна атрымала працяг — ужо ў 2013 годзе, калі мы, актывісты кампаніі "Праваабаронцы супраць смяротнага пакарання ў Беларусі", накіраваліся ў Берлін да Алега Алкаева, які быў начальнікам мінскага СІЗА № 1 у той час, калі там знаходзіўся Іван Фамін. Мы ўзялі з сабою тыя лісты, што атрымалі адтуль у 1998 годзе, яны яшчэ захавалі гэты пах... Алега Алкаева страсянула троху, калі я дастала гэтыя лісты і паклала перад ім. Ён сказаў: "Я ведаю, і не трэба мне іх паказваць". Сказаў: "Івана Фаміна я памятаю — гэта чалавек, які агаварыў сябе на судзе, якога расстралялі за чужую віну, і гэта ўсе ведалі..."»*

Старшыня Праваабарончага цэнтра «Вясна», аўтар прадмовы да кнігі **Алесь Бяляцкі** сказаў:

*«Чытаў кнігу цягам двух дзён, і "даў нырца" ў яе так, што цяжка было вынырнуць! Імёны, прозвішчы расстраляных паўтараюцца дзясяткі разоў, але з розных бакоў. У афіцыйных паперах, сведчаннях*



9 кастрычніка 2015 года ў Мінску Праваабарончы цэнтр «Вясна» прэзентаваў дакументальнае выданне «Смяротнае пакаранне ў Беларусі»

*родных і сваякоў, ва ўспамінах знаёмых ці супрацоўнікаў ведамства таго ж Алкаева. Гэта такі танец смерці, які робіцца на адным месцы. Кніга мае магічнае ўздзеянне. Дарэчы, дакументальная проза нашага "Нобеля" Святланы Алексіевіч па духу і форме нагадвае гэту кнігу. Менавіта ў творчасці Святланы, Васіля Быкава, Алеся Адамовіча мы бачым той самы гуманізм, які пярэчыць існуючаму разуменню сутнасці смяротнага пакарання. Кніга і з'яўляецца яшчэ адным доказам і фактычным дакументам разумення яго несправядлівасці і што яго не павінна быць у Беларусі. Мяне найбольш уразіла інтэрв'ю з Алкаевым. Кожным разам гэты дзядзька дастае са спратаў сваёй памяці штосьці новае. Асабліва ўразілі расповеды пра выпадкі, як людзі спрабавалі пазбегнуць поўнага зыходу ў нябыт без імя. Калі пасля расстрэлу пахаваюць і канцоў ніхто не знойдзе. Яны самі спрабавалі — удала, няўдала — падвесці рахункі свайму жыццю. У адной камеры на адной вяроўцы павесіліся ўдвох перад выкананнем прысуду, каб іх целы аддалі сваякам... І наступная гісторыя, якую ён згадвае, з Казахстана, калі чалавеку, які пытаўся, як зрабіць, каб ягонае цела аддалі сваякам, Алкаеў сказаў, што гэта магчыма толькі пры самагубстве. Той хуценька гэта зрабіў і пакінуў кароткую запіску: "Дзякуй за параду"».*

9 кастрычніка 2015 года ў Мінску Праваабарончы цэнтр «Вясна» прэзентаваў дакументальнае выданне «Смяротнае пакаранне ў Беларусі»

У Алматы ў Сусветны дзень барацьбы супраць смяротнага пакарання арганізацыя «Freedom House Kazakhstan» у рамках «Кінашколы па правах чалавека» зладзіла выставу тэматычных плакатаў Алега Аблажэя «Шэсць аргументаў супраць смяротнага пакарання».

Выстава тэматычных плакатаў Алега Аблажэя «Шэсць аргументаў супраць смяротнага пакарання» ў Алматы, 2015 год.

У радку аб прычыне смерці **Сяргея Іванова** напісана: *«Прывядзенне прысуду ў выкананне»*. Пазначаная таксама і дата выканання прысуду — 18 красавіка 2016 года.

Як паведаміў каардынатар кампаніі «Праваабаронцы супраць смяротнага пакарання» **Андрэй Палуда**, раней у гэтым радку ў пасведчаннях аб смерці асуджаных да смяротнага пакарання прастаўляўся толькі прочырк. На гэтую праблему неаднаразова звярталі ўвагу праваабаронцы, а ў выніку быў створаны рэзанансны фільм «Прычына смерці — прочырк».

Неўзабаве прочырк на некаторы час замянілі на такую ж па-сутнасці невыразную фармуліроўку: *«Звесткі не прадстаўлены»*. Менавіта такі запіс быў зроблены ў пасведчанні аб смерці **Паўла Селюна**, расстралянага роўна на два гады раней у ноч з 17 на 18 красавіка.

Пасведчанне аб смерці расстралянага Сяргея Іванова.

ПАСВЕДЧАННЕ АБ СМЕРЦІ

Грамадзянін(ка) **ІВАНОЎ**

**СЯРГЕЙ МІХАЙЛАВІЧ**

памёр(ла) **18.04.2016**

**васямнаццатага красавіка дзве тысячы шаснаццатага года**

ва ўзросце **22** гадоў, аб чым у кнізе рэгістрацыі актаў аб смерці

**29** чысла **красавіка** месяца **2016** года

зроблен запіс за № **288**

Прычына смерці **Приведение приговора в исполнение**

Месца смерці: рэспубліка (дзяржава) **Беларусь**

вобласць (край)

раён

горад (пасёлак, сяло, вёска) **г.Мінск**

Месца рэгістрацыі смерці **Аддзел ЗАГС адміністрацыі Цэнтральнага раёна г.Гомеля**

Дата выдачы « **17** » **мая** 20 **16** г.

Кіраўнік органа ЗАГС

**М.Л. Браткоўская**

І-ПЮ № 0469955

СВИДЕТЕЛЬСТВО О СМЕРТИ

Гражданин(ка) **ИВАНОВ**

**СЕРГЕЙ МИХАЙЛОВИЧ**

умер(ла) **18.04.2016**

**восемнадцатого апреля две тысячи шестнадцатого года**

в возрасте **22** лет, о чем в книге регистрации актов о смерти

**29** числа **апреля** месяца **2016** года

произведена запись за № **288**

Причина смерти **Приведение приговора в исполнение**

Место смерти: республика (государство) **Беларусь**

область (край)

район

город (поселок, село, деревня) **г.Минск**

Место регистрации смерти **Отдел ЗАГС администрации Центрального района г.Гомеля**

Дата выдачи « **17** » **мая** 20 **16** г.

Руководитель органа ЗАГС

**И.Л. Братковская**

І-ПЮ № 0469955

Прадстаўнікі кампаніі «Праваабаронцы супраць смяротнага пакарання» бралі ўдзел у MediaBarCamp-2016, 26–29 траўня 2016 года пад Вільняй.

Мастак Алесь Пушкін говорыць: «*Пераасэнсаваў свой погляд на смяротнае пакаранне*».



## Шосты сусветны кангрэс супраць смяротнага пакарання.

1 Прадстаўнікі кампаніі «Праваабаронцы супраць смяротнага пакарання» і Міжнароднай федэрацыі за правы чалавека (FIDH) на кангрэсе.

2 Шосты сусветны кангрэс супраць смяротнага пакарання распачаў працу 21 чэрвеня 2016 года а 17-й гадзіне ў оперным тэатры ў Осла.

3 Для маці расстралянага па справе тэракту ў мінскім метро Уладзіслава Кавалёва, Любові Кавалёвай, якая ўваходзіла ў склад беларускай дэлегацыі, кангрэс з’явіўся нагодай распавесці пра лёс свайго сына: *«Хачу, каб увесь свет ведаў, што наша Беларусь адзіная на ўсёй еўрапейскай і постсавецкай прасторы, дзе існуе смяротная кара. Як аказалася, людзі цікавяцца справай майго сына. Мы сюды прывезлі буклеты, дзе раздрукавалі рашэнне Камітэта па правах чалавека. Мы нагадваем пра тую несправядлівасць, якая адбылася з маім сынам і са мной».*

4 22 чэрвеня ў межах кангрэса Праваабарончы цэнтр «Вясна», Міжнародная федэрацыя за правы чалавека (FIDH) і Нарвежскі Хельсінкскі камітэт зладзілі дыскусію па праблеме смяротнага пакарання ў Беларусі. Ад Беларусі выступілі **Любоў Кавалёва**, праваабаронцы ПЦ «Вясна» **Валянцін Стэфановіч** і **Андрэй Палуда**.

Журналістка і літаратарка **Паліна Сцепаненка** прэзентавала англамоўную версію дакументальнай кнігі «Смяротнае пакаранне ў Беларусі». Як можа міжнародная супольнасць, і перадусім Еўрапейскі саюз, дапамагчы працэсу адмены смяротнага пакарання ў Беларусі? Пра гэта распавялі **Элізабэт Эдланд**, супрацоўніца аддзела па планаванні і ажыццяўленні палітыкі ў сферы правоў чалавека Знешнепалітычнай службы ЕС, **Фларанс Беліўе**, намесніца Генеральнага сакратара FIDH. Заключныя заўвагі — Генеральнага сакратара Нарвежскага Хельсінкскага камітэта **Б’ёрна Энгесланда**.

5 Увечары 23 чэрвеня ў цэнтры сталіцы Нарвегіі адбыўся марш супраць смяротнага пакарання. Шэсце пачалося ад мэрыі Осла.

У кастрычніку 2016 года першы прэзідэнт Сусветнай кааліцыі супраць смяротнага пакарання **Фларанс Беліўе** (Florence Bellivier) наведала Беларусь у межах Тыдня супраць смяротнага пакарання.

**1** Фларанс Беліўе з постарам Кааліцыі да Сусветнага дня барацьбы супраць смяротнага пакарання, якія сёлета прысвечаны тэме тэрарызму. Мінск, 4 кастрычніка 2016 года.

**2** Прадстаўнікі місіі FIDH Фларанс Беліўе і Саша Кулаева з беларускімі праваабаронцамі — разам супраць смяротнай кары. Мінск, 4 кастрычніка 2016 года.

Плакат да Тыдня супраць смяротнага пакараня пад слоганам «Смяротнае пакаранне незваротнае». На фотаздымку: чыгуначны тупік пад Оршай на Кабыляцкай гары — у месцы масавых расстрэлаў пры сталінскім рэжыме. Аўтар фота **Віктар Трацякоў**.

На фотаздымку чыгуначны тупік пад Оршай на Кабыляцкай гары — у месцы масавых расстрэлаў пры сталінскім рэжыме. Аўтар фота Віктар Трацякоў.

ТЫДЗЕНЬ СУПРАЦЬ
СМЯРОТНАГА
ПАКАРАННЯ
Ў БЕЛАРУСІ
5-10.10.2016

НЕ
СМЯРОТНАМУ ПАКАРАННЮ

НЕ забірай жыццё!

ВЯСНА
праваабарончы цэнтр

СМЯРОТНАЕ ПАКАРАННЕ НЕЗВАРОТНАЕ

5 кастрычніка 2016 года ў Мінску прадстаўнікі міжнароднай супольнасці, праваабаронцы і журналісты сабраліся ў Прэс-клубе з нагоды прэзентацыі даклада па смяротным пакаранні ў Беларусі, каб абмеркаваць актуальныя аспекты гэтай праблемы і магчымыя захады дзеля яе вырашэння.

З прэзентацыі даклада «Смяротнае пакаранне ў Беларусі: забойствы на (не)законных падставах», сумесна падрыхтаванага FIDH і ПЦ «Вясна», распачаўся штогадовы Тыдзень супраць смяротнага пакарання.

На мерапрыемстве выступілі намеснік кіраўніка Прадстаўніцтва Еўрапейскага саюза ў Рэспубліцы Беларусь **Джым Казанс**, прафесар права, намесніца Генеральнага сакратара FIDH і першы прэзідэнт Сусветнай кааліцыі супраць смяротнага пакарання **Фларанс Беліўе**, кіраўніца аддзела Усходняй Еўропы і Цэнтральнай Азіі FIDH **Саша Кулаева** і каардынатар кампаніі «Праваабаронцы супраць смяротнага пакарання ў Беларусі» **Андрэй Палуда**.

Саша Кулаева падзякавала ўсім прысутным за тое, што прыйшлі і праявілі цікаўнасць да дакладу і тэмы смяротнага пакарання ў Беларусі. Яна распавяла, як праходзіла місія Міжнароднай федэрацыі, у якую ўваходзілі людзі розных профіляў:

*«Трэба сказаць, што місія для нас скончылася ўчора, калі мы прысутнічалі на пасяджэнні Вярхоўнага Суда, дзе быў зацверджаны чарговы смяротны прысуд. Гэта дало вельмі яркі малюнак усяго таго, чым мы займаліся апошнія месяцы. Умовы, у якіх праходзіць гэта дзейства, зусім жахлівыя, незалежна ад таго, што адбываецца па сутнасці. Страшны рытуал, на якім страшна прысутнічаць. Прычым страшна ад усяго, пачынаючы ад стану прадстаўніка ахвяры — маці загінулай дзяўчыны, лёс якой, падобна, таксама абыякавы дзяржаве і судовай вытворчасці, як і лёс забойцы. Усе знаходзяцца ў жахлівым псіхалагічным стане, усё гэта адбываецца ў асяроддзі канвою і сабак і наводзіць на самыя сумныя ўспаміны і гістарычныя паралелі».*

---

5 кастрычніка 2016 года ў Мінску прадстаўнікі міжнароднай супольнасці, праваабаронцы і журналісты сабраліся ў Прэс-клубе з нагоды прэзентацыі даклада па смяротным пакаранні ў Беларусі, каб абмеркаваць актуальныя аспекты гэтай праблемы і магчымыя захады дзеля яе вырашэння.

5 кастрычніка 2016 года. Курапаты — месца сталінскіх расстрэлаў пад Мінскам. Праваабаронцы з Францыі **Фларанс Беліўе** і **Саша Кулаева** і беларускія праваабаронцы **Алесь Бяляцкі** і **Раіса Міхайлоўская**.

5 кастрычніка 2016 года. Курапаты — месца сталінскіх расстрэлаў пад Мінскам. Праваабаронцы з Францыі Фларанс Беліўе і Саша Кулаева і беларускія праваабаронцы Алесь Бяляцкі і Раіса Міхайлоўская.

У першыню праблема адмены смяротнага пакарання ў Беларусі стала прадметам даследавання экспертаў і праваабаронцаў на Міжнародным кангрэсе даследчыкаў Беларусі, які шосты раз праводзіўся ў Каўнасе.

7 кастрычніка 2016 года на тэму смяротнага пакарання падчас працы адмысловай секцыі разважалі і дзяліліся сваімі меркаваннямі праваабаронцы, журналісты, сваякі расстраляных.

Праваабаронца **Андрэй Палуда**, які з'яўляўся мадэратарам дыскусіі, адзначыў, што тэма смяротнага пакарання пачала ў апошні час разглядацца ў яшчэ адной плоскасці — навукова-даследчыцкай. Ён звярнуў увагу прысутных на даследаванні і выданні праваабаронцаў на тэму смяротнага пакарання, якія нядаўна ўбачылі свет: кнігу артыкулаў і матэрыялаў «Смяротнае пакаранне ў Беларусі», а таксама на матэрыялы даследчай місіі Міжнароднай федэрацыі за правы чалавека (FIDH) і Праваабарончага цэнтра «Вясна» «Смертная казнь в Беларуси: убийства на (не)законных основаниях».

Кіраўнік Беларускага дакументацыйнага цэнтра, праваабаронца **Раіса Міхайлоўская** ў сваім выступе рабіла акцэнт на праблеме гвалтоўных знікненняў апанентаў улады ў Беларусі. Зрабіўшы экскурс у гісторыю гэтай з'явы, яна прыгадала дзейнасць гэтак званых «эскадронаў смерці», якія «дапамагалі» ўладам змагацца са злачыннасцю напачатку 90-х гадоў а затым прывялі і да фізічнага знішчэння палітыкаў і журналіста.

Расследаванне крымінальных спраў па гэтых знікненнях працягваюцца і да гэтага часу, і менавіта па гэтай прычыне ўлады адмаўляюцца прызнаць іх памерлымі, даводзячы сітуацыю да абсурду. Адмаўляюцца таксама і аб'яднаць іх у адну справу, хаця ў іх відавочна праглядаецца адзін і той жа след.

Раіса Міхайлоўская лічыць, што крымінальныя справы па знікненнях варта перакваліфікаваць на іншы артыкул Крымінальнага кодэкса — «Злачынства супраць чалавечнасці», паколькі там не існуе тэрміну даўніны і справы не ўдасца закрыць праз адпаведны час: *«Справы па знікненнях павінны кваліфікавацца па артыкуле 128 Крымінальнага кодэкса — "Злачынствы супраць чалавечнасці", знікненні, наступствамі якіх з'яўляецца пазасудовае смяротнае пакаранне. І гэтыя злачынствы не маюць тэрміну даўніны».*

Журналіст-праваабаронца **Сяргей Сыс**, які займаецца праблематыкай смяротнага пакарання ў СМІ, падзяліўся вопытам правядзення журналісцкіх



---

**1** Любоў Кавалёва, Андрэй Палуда і Раіса Міхайлоўская пад час працы Міжнароднага кангрэса даследчыкаў Беларусі, 7 кастрычніка 2016 года.

**2** Журналіст Сяргей Сыс і Любоў Кавалёва.

расследаванняў самых розных аспектаў смяротнага пакарання ў Беларусі ва ўмовах дзяржаўнай таямніцы, спыніўшыся на шматлікіх цяжкасцях і праблемах, з якімі сутыкаюцца пры гэтым журналісты, а таксама на шляхі іх пераадолення.

Праваабаронца **Тамара Чыкунова**, заснавальніца ўзбекскай арганізацыі «Маці супраць смяротнага пакарання і катаванняў», была вымушаная з-за сваёй дзейнасці эміграваць з Узбекістана пасля таго, як у Ташкенце расстралялі яе адзінага сына, а яна пачала актыўна дапамагаць іншым асуджаным да смяротнага пакарання.

Яна паведаміла аб тым, як некалькі дзён назад пад час асабістай аўдыенцыі перадавала Папу Рымскаму Францішку ліст ад каардынатара кампаніі «Праваабаронцы супраць смяротнага пакарання» Андрэя Палуды.

*«Я набраўся смеласці і хацеў бы прасіць Вас пра размову з Аляксандрам Лукашэнкам адносна пытання смяротнага пакарання ў нашай краіне. Я веру, што Вашая асабістая пазіцыя можа дапамагчы прыняццю станоўчага рашэння па гэтай праблеме, што дасць магчымасць не толькі надаць нашай краіне больш станоўчы імідж у свеце, але і дазволіць выратаваць жыцці тых чатырох асуджаных на смерць, якія ў цяперашні момант знаходзяцца ў “калідоры смерці”»*, — прасіў Андрэй Палуда Папу Рымскага.

---

**1** Выступае Тамара Чыкунова.

**2** Высупае Раіса Міхайлоўская.

**3** Любоў Кавалёва.




**1–4** На працягу Тыдня супраць смяротнага пакарання праваабаронцы на вуліцах гарадоў раздавалі нумар «Народнай волі» з адмысловым дадаткам пра смяротнае пакаранне. Выпуск газеты быў падрыхтаваны пры падтрымцы Хельсінкскага фонда па правах чалавека (Польшча).

**5–6** 9 кастрычніка 2016 года ў Гомелі падчас распаўсюду газеты «Народная воля» са спецвыпускам пра смяротнае пакаранне былі затрыманыя актывісты-праваабаронцы Леанід Судаленка і Анатоль Паплаўны.

8 кастрычніка 2016 года. Мінск, клуб «Re:Public». У межах Тыдня супраць смяротнага пакарання беларускія музыкі далі вялікі канцэрт у падтрымку ўвядзення мараторыя на выключную меру. Удзел у акцыі «Рок за жыццё» ўзялі гурты **«Дай дарогу!»**, **«Re1ikt»**, **«Мутнаевока»**, **:B:N:**, **«Sciana»** і **«Тлушч»**.

8 кастрычніка 2016 года. Мінск, клуб «Re:Public». У межах Тыдня супраць смяротнага пакарання беларускія музыкі далі вялікі канцэрт у падтрымку ўвядзення мараторыя на выключную меру. Удзел у акцыі «Рок за жыццё» ўзялі гурты «Дай дарогу!», «Re1ikt», «Мутнаевока», :B:N:, «Sciana» і «Тлушч».

Дзень ушанавання продкаў Дзяды. Орша, лес па Магілёўскай шашы, месца масавых расстрэлаў. Мастак **Алесь Кажамяка** і **актывіст Алег Бяляцкі** запальваюць znічы.

Дзень ушанавання продкаў Дзяды. Орша, лес па Магілёўскай шашы, месца масавых расстрэлаў. Мастак Алесь Кажамяка і актывіст Алег Бяляцкі запальваюць знічы.

**Генадзь Якавіцкі** быў расстраляны ў СІЗА № 1 г. Мінска разам з Іванам Куляшом і Сяргеем Хмялеўскім 5 лістапада 2016 года.

Сваякі расстралянага перадалі каардынатару кампаніі «Праваабаронцы супраць смяротнага пакараннння ў Беларусі» Андрэю Палудзе дакумент з Мінскага абласнога суда, які пацвярджае гэтую інфармацыю:

*«Паведамляем, што прысудам Мінскага абласнога суда ад 5 студзеня 2016 года Ваш бацька Якавіцкі Генадзь Генадзьевіч асуджаны па ч. 3 арт. 174, пп. 6, 12 арт. 139 КК да выключнай меры пакарання — смяротнай кары — уступіў у законную сілу 8 красавіка 2016 года і прыведзены ў выкананне 5 лістапада 2016 года».*

Сваякі расстралянага перадалі каардынатару кампаніі «Праваабаронцы супраць смяротнага пакараннння ў Беларусі» Андрэю Палудзе дакумент з Мінскага абласнога суда, які пацвярджае гэтую інфармацыю.



**МІНСКІ АБЛАСНЫ СУД**

Вул. Свярдлова, 3, 220050, г. Мінск
E-mail: obl-minsk@court.by; www.minoblsud.gov.by
Тэл./ф. 222-40-39

**МИНСКИЙ ОБЛАСТНОЙ СУД**

Ул. Свердлова, 3, 220050, г. Минск
E-mail: obl-minsk@court.by; www.minoblsud.gov.by
Тел./ф. 222-40-39

24.11.2016 2-3/2016

Яковицкой Александре Геннадьевне

Минская область

Сообщаем, что приговором Минского областного суда от 5 января 2016 года Ваш отец Яковицкий Геннадий Геннадиевич, 30 октября 1967 года рождения, осужден по ч. 3 ст. 174, п. п. 6, 16 ч. 2 ст. 139 УК к исключительной мере наказания – смертной казни - вступил в законную силу 8 апреля 2016 года и приведен в исполнение 5 ноября 2016 года.

Заместитель председателя Г.Ф. Клещенок

12 снежня 2016 года актывісты кампаніі «Праваабаронцы супраць смяротнага пакарання ў Беларусі» і праваабаронцы накіравалі звароты да ўсіх 110 дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу з заклікам правесці парламенцкія слуханні па абмеркаванні магчымасці ўвядзення мараторыя на смяротнае пакаранне ў нашай краіне.

Да кожнага звароту быў прыкладзены сумесны даклад ПЦ «Вясна» і FIDH «Смяротнае пакаранне ў Беларусі: забойствы на (не)законных падставах».

12 снежня 2016 года актывісты кампаніі «Праваабаронцы супраць смяротнага пакарання ў Беларусі» і праваабаронцы накіравалі звароты да ўсіх 110 дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу з заклікам правесці парламенцкія слуханні па абмеркаванні магчымасці ўвядзення мараторыя на смяротнае пакаранне ў нашай краіне.

Малюнкі
да фільма «Гісторыя смяротнага пакарання
ў Беларусі». Аўтар **Алесь Кажамяка**.

**1–3** Малюнкі да фільма «Гісторыя смяротнага пакарання ў Беларусі». Аўтар Алесь Кажамяка.

**4** Віктар Трацякоў падчас здымкаў фільма «Гісторыя смяротнага пакарання ў Беларусі», мястэчка Смаляны Аршанскага раёна, замак Белы Ковель.

**5** Падчас здымкаў фільма «Гісторыя смяротнага пакарання ў Беларусі». Актывістка кампаніі «Праваабаронцы супраць смяротнага пакарання», пісьменніца і сцэнарыстка Паліна Сцепаненка і Алесь Краўцэвіч — беларускі гісторык і археолаг. Гродна.

6–7 лютага 2017 года ў Бруселі адбыліся сустрэчы праваабаронцаў ПЦ «Вясна», FIDH, спецдакладчыка ААН па Беларусі і маці расстралянага ў 2012 годзе Уладзіслава Кавалёва з прадстаўнікамі Еўрапейскага саюза.

1 6–7 лютага 2017 года ў Бруселі адбыліся сустрэчы праваабаронцаў ПЦ «Вясна», FIDH, спецдакладчыка ААН па Беларусі і маці расстралянага ў 2012 годзе Уладзіслава Кавалёва з прадстаўнікамі Еўрапейскага саюза.

2 8 лютага 2017 года адбыўся працоўны візіт дэлегацыі ПЦ «Вясна» і FIDH у Страсбург, дзе праваабаронцы абмеркавалі з прадстаўнікамі Савета Еўропы пытанне смяротнага пакарання і агульнае становішча правоў чалавека ў Беларусі.

Юрыст ПЦ «Вясна» **Валянцін Стэфановіч**, каардынатар кампаніі «Праваабаронцы супраць смяротнага пакарання ў Беларусі» **Андрэй Палуда** і **Любоў Кавалёва** ў Страсбургу сустрэліся з прадстаўнікамі Сакратарыята Савета Еўропы. На працягу дня яны правялі абмеркаванні па сітуацыі ў Беларусі з кіраўніком аддзела садзейнічання захаванню правоў чалавека на нацыянальным узроўні Генеральнага дырэктарата па правах чалавека і вяршэнству права **Таццянай Тэрмачыч**, кіраўніком Дырэкцыі па пытаннях палітычнага кансультавання ў Сакратарыяце СЕ **Аляксандрам Гесэлем**, намеснікам дырэктара кабінета Камісара па правах чалавека **Баянай Урумавай**. Таксама адбылася сустрэча з амбасадарамі еўрапейскіх дзяржаў пры СЕ — **Лаймай Юрэвічэне** (Літва), старшынёй групы дакладчыкаў па пытаннях дэмакратыі Камітэта міністраў СЕ (да задачаў гэтай групы належаць узаемадачыненні з Беларуссю), і **Гіда Белаці Чэколі** (Сан-Марына), старшынёй групы дакладчыкаў па пытаннях правоў чалавека Камітэта міністраў.

Хайсы — урочышча пад Віцебскам. Пра расстрэлы, якія адбываліся ў 1930-х гадах у гэтых мясцінах, згадваюць мясцовыя жыхары. Улады адмаўляюцца прызнаваць урочышча Хайсы пад Віцебскам месцам масавых расстрэлаў у часы сталінізму.

1 **Ян Дзяржаўцаў**, стваральнік ініцыятывы «Хайсы — віцебскія Курапаты», з 2004 года збірае сведчанні пра злачынствы камунізму ў Хайсах. Вось адно са сведчанняў, запісаных Янам Дзяржаўцавым: «*Славік Буевіч распавядаў пра расстрэлы ў Хайсах. Ягоны бацька быў леснікам. І сказалі бацьку аднойчы: "У цябе крадуць лес. Як сцямнее, так лес і павезлі. Па начах машыны ходзяць, са святлом. Чаго ездзяць у лес? Крадуць!" Ага, раз атрымаў сігнал, трэба ж рэагаваць, інакш быць бядзе. І ён увечары выпраўляецца. Прыйшоў раней. Схаваўся за елку, сядзіць, глядзіць. Ідзе машына. Святло фараў. Ён чакае, кажа сам сабе: "Вось зараз я вас цёпленькімі вазьму. На месцы пачакаю, калі пачнуць грузіць". Машына выйшла на паляну, стала, дзверы адчыніліся. З кабіны вылезлі людзі. Дзверы адчыняюцца, чуюцца мацюкі. Людзей шмат з машыны выйшла. Глядзіць: людзей гэтых на калені ставяць. А цёмна. Ён спачатку не бачыў, што там яма. Пачалі страляць. Ён зваліўся пластом і ляжаў. Ляжаў, пакуль не расстралялі ўсіх людзей. Засыпалі зямлёй. Пасадзілі елачкі невялікія. Ён кажа: "Я потым, калі ўстаў, агледзеў гэта". Агледзеў і ціхенька пайшоў*».

2–3 Парэшткі ахвяраў сталінізму ў Хайсах у красавіку 2017 года былі вырытыя з зямлі «чорнымі капальнікамі».

4 Рэчы расстраляных у Хайсах людзей.

У 2017 годзе Беларусь па-ранейшаму застаецца адзінай краінай у Еўропе, якая ўжывае смяротнае пакаранне. З мэтай пашырэння інфармацыі пра гэта FIDH размяшчае ў сацыяльных сетках відэа пад назвай «Тым часам у Беларусі. Час пакласці канец смяротнаму пакаранню ў Еўропе». Відэа распрацаванае камунікацыйным агенцтвам Babel, якое скарыстала канцэпцыю «Тым часам у...».

«Тым часам у Беларусі» развівае ідэю абсурднасці смяротнага пакарання ў Беларусі, што з’яўляецца сур’ёзным выклікам для Еўропы.

У 2017 годзе Беларусь па-ранейшаму застаецца адзінай краінай у Еўропе, якая ўжывае смяротнае пакаранне. З мэтай пашырэння інфармацыі пра гэта FIDH размяшчае ў сацыяльных сетках відэа пад назвай «Тым часам у Беларусі. Час пакласці канец смяротнаму пакаранню ў Еўропе».

6 ліпеня 2017 года 18 тысяч подпісаў за ўвядзенне мараторыя на смяротнае пакаранне ў Беларусі перадалі праваабаронцы ў Адміністрацыю прэзідэнта. Подпісы, сабраныя ў межах глабальнай кампаніі міжнароднай праваабарончай арганізацыі «Amnesty International», прывезла прадстаўніца гэтай арганізацыі **Айша Юнг**.

Людзі з розных краінаў свету ў сваіх петыцыях заклікаюць беларускія ўлады ў якасці першага кроку ўвесці мараторый на смяротнае пакаранне.

Да перадачы звароту і подпісаў у Адміністрацыю далучыліся праваабаронцы «Вясны» **Алесь Бяляцкі, Валянцін Стэфановіч** і **Андрэй Палуда**.

Пакуль праваабаронцы рэгістравалі зварот у Адміністрацыі прэзідэнта, побач з будынкам праходзіў дэпутат парламента Швецыі **Крысціян Хольм**, які прысутнічаў на Парламенцкай асамблеі АБСЕ ў Мінску. Ён горача падтрымаў акцыю і выказаўся за адмену смяротнага пакарання:

*«Па-першае, я выступаю за адмену смяротнага пакарання ва ўсіх краінах без выключэння, у тым ліку і ў Беларусі, — заявіў ён. — Лічу, што ёсць іншыя віды пакарання для асабліва небяспечных злачынцаў. А па-другое, выступаю за тое, каб судовая сістэма была незалежная і справядлівая, што дазволіць пазбягаць памылак».*

6 ліпеня 2017 года 18 тысяч подпісаў за ўвядзенне мараторыя на смяротнае пакаранне ў Беларусі перадалі праваабаронцы ў Адміністрацыю прэзідэнта.

Плакат да Тыдня супраць смяротнага пакарання 2017 года пад слоганам «Смяротнае пакаранне — гэта мінулае». Здымак зроблены ва ўрочышчы Хайсы пад Віцебскам у красавіку 2017 года. Аўтар фота **Паліна Сцепаненка**.

Плакат да Тыдня супраць смяротнага пакарання 2017 года пад слоганам «Смяротнае пакаранне — гэта мінулае». Здымак зроблены ва ўрочышчы Хайсы пад Віцебскам у красавіку 2017 года.

ТЫДЗЕНЬ
СУПРАЦЬ
СМЯРОТНАГА
ПАКАРАННЯ
Ў БЕЛАРУСІ

5-10.10.2017

скажы
НЕ
смяротнаму пакаранню

Не забірай жыццё!
Праваабаронцы супраць смяротнага пакарання ў Беларусі

ВЯСНА
праваабарончы цэнтр

СМЯРОТНАЕ ПАКАРАННЕ – ГЭТА МІНУЛАЕ

6 кастрычніка 2017 года ў вёсцы Стаўры пад Оршай перад прэзентацыяй дакументальнага фільма «Гісторыя смяротнага пакарання ў Беларусі» адбылася дыскусія на тэму сувязі масавых рэпрэсій мінулага з сённяшняй практыкай смяронага пакарання пад назвай «Масавыя рэпрэсіі і смяротнае пакаранне».

6 кастрычніка 2017 года ў вёсцы Стаўры пад Оршай перад прэзентацыяй дакументальнага фільма «Гісторыя смяротнага пакарання ў Беларусі» адбылася дыскусія на тэму сувязі масавых рэпрэсій мінулага з сённяшняй практыкай смяронага пакарання пад назвай «Масавыя рэпрэсіі і смяротнае пакаранне».

7 кастрычніка ў берасцейсцкім клубе «Фантазія» і 8 кастрычніка ў мінскім «RE:PUBLIC» адбыліся канцэрты «Рок за жыццё».

7 кастрычніка ў берасцейсцкім клубе «Фантазія» і 8 кастрычніка ў мінскім «RE:PUBLIC» адбыліся канцэрты «Рок за жыццё».

9 кастрычніка 2017 года ў Галерэі TUT.by у Мінску адбылася дыскусія на тэму «Комікс — малюнкі, якія могуць змяняць рэальнасць?» і прэзентацыя комікса «Мама, гэта я…», падрыхтаванага ў межах Тыдня супраць смяротнага пакарання.

У мерапрыемстве бралі ўдзел каардынатар кампаніі «Праваабаронцы супраць смяротнага пакарання ў Беларусі» **Андрэй Палуда**, супрацоўнік крамы коміксаў «Time to be a hero» **Уладзіслаў Міктум** і сацыяльны антраполаг, незалежны даследчык коміксаў **Мікіта Трафімовіч**.

Удзельнікі дыскусіі абмеркавалі, як праз коміксы можна раскрываць складаныя тэмы і якім чынам даносіць свае думкі да чытачоў.

Праваабаронца адзначыў, што ў гэтым годзе Тыдзень супраць смяротнага пакарання праходзіць пад слоганам «Смяротнае пакаранне — гэта мінулае»:

*«І мы спадзяёмся, што смяротнае пакаранне ўсё ж такі будзе мінулай часткай нашай гісторыі. І ў гэтым коміксе мы таксама паспрабавалі ўзгадаць мінулы час — пра суды Лінча ў Амерыцы, дзе ў свой час было вельмі папулярна рабіць паштоўкі з фота ў натоўпе на фоне лінчаванага чалавека і дасылаць сваякам, пры гэтым пазначаць, напрыклад, што “я ў трэцім радзе справа”. І мы вырашылі гэта таксама выкарыстаць і ўклалі ў комікс дзве паштоўкі: “Мама, гэта я злева” і “Мама, гэта я справа”, каб людзі маглі выбраць сваю ў залежнасці ад асабістай пазіцыі. Магчыма, гэта можна ўспрымаць як маніпуляцыю, уздзеянне на людзей, але, з іншага боку, я больш чым упэўнены, што большая колькасць людзей ніколі б не змаглі забіць».*

Уладзіслаў Міктум распавёў: *«У гісторыі падаецца прыклад невінаватага чалавека, і вельмі проста суперажываць асуджанаму герою. Але трэба разумець, што незалежна ад таго, вінаваты чалавек ці не, ён усё роўна не павінен быць забіты. І калі атрымаецца данесці вось гэтую ідэю хоць бы да кагосьці, то гэта будзе важна. Не тое, што вас могуць выпадкова пакараць смерцю, а менавіта тое, што незалежна ад таго, што чалавек зрабіў, гэта не прычына яго забіваць».*

Даследчык коміксаў Мікіта Трафімовіч дадаў: *«Чалавек не ўяўляе, як гэта — забіваць іншага чалавека. І ніколі не ўявіць. І калі даць яму выбар, ён можа выбраць усё, што заўгодна, таму што ён не ўяўляе моманту абсалютна, ён не ўяўляе, што такое каштоўнасць чалавечага жыцця. Гэта для яго абстракцыя накшталт дэмакратыі. Але з іншага боку, калі я кажу пра тое, што я магу кагосьці прысудзіць да смяротнага пакарання, гэта адкрывае магчымасць прысудзіць і мяне. І вось гэта людзі могуць уявіць: падтрымліваючы гвалт, яны легітымізуюць яго ў адносінах да сябе».*

---

9 кастрычніка 2017 года ў Галерэі TUT.by у Мінску адбылася дыскусія на тэму «Комікс — малюнкі, якія могуць змяняць рэальнасць?» і прэзентацыя комікса «Мама, гэта я…», падрыхтаванага ў межах Тыдня супраць смяротнага пакарання.

10 кастрычніка 2017 года, у Сусветны дзень барацьбы супраць смяротнага пакарання, праваабаронцы выйшлі на вуліцы беларускіх гарадоў. Тысячы буклетаў «Шэсць аргументаў супраць смяротнага пакарання» атрымалі жыхары Мінска, Гомеля, Гродна, Баранавічаў, Рэчыцы, Светлагорска, Маладзечна і іншых гарадоў.

10 кастрычніка 2017 года, у Сусветны дзень барацьбы супраць смяротнага пакарання, праваабаронцы выйшлі на вуліцы беларускіх гарадоў. Тысячы буклетаў «Шэсць аргументаў супраць смяротнага пакарання» атрымалі жыхары Мінска, Гомеля, Гродна, Баранавічаў, Рэчыцы, Светлагорска, Маладзечна і іншых гарадоў.

Інфармацыя па колькасці расстрэлаў у Беларусі, падрыхтаваная кампаніяй «Праваабаронцы супраць смяротнага пакарання». Праваабаронцам даводзіцца пераадольваць завесу сакрэтнасці, якая створаная ў Беларусі вакол тэмы смяротнага пакарання.

Інфармацыя па колькасці расстрэлаў у Беларусі, падрыхтаваная кампаніяй «Праваабаронцы супраць смяротнага пакарання».


Колькасць асуджаных да растрэлу ў Беларусі
1991 21
1992 24
1993 20
1994 24
1995 37
1996 29
1997 46
1998 47
1999 13
2000 4
2001 7
2002 4
2003 4
2004 2
2005 2
2006 9
2007 4
2008 2
2009 2
2010 2
2011 2
2012 -
2013 4
2014 -
2015 2
2016 4
2017 4
2018 ?
Крыніца:
Кампанія «Праваабаронцы супраць смяротнага пакараня ў Беларусі»
ВЯСНА

Зімовы кубак па дваровым футболе завяршыўся ў Оршы. Спаборніцтвы ўжо другі год запар (зімовы кубак і летні чэмпіянат) арганізуе грамадскае аб'яднанне **«Звяз»**. На гэты зімовы сезон зарэгістравалася ажно 17 каманд. Найбольшая інтрыга разгарнулася пад час гульні каманды **«Смаляны»** і каманды **«Эверэст»** з Оршы. Кубак пераможцы дастаўся смалянцам. Абедзве каманды, пераможцы і фіналісты, атрымалі таксама прызы, прадстаўленыя кампаніяй «Праваабаронцы супраць смяротнага пакарання» і прафсаюзам радыёэлектроннай прамысловасці. Разам з майкамі з сімволікай кампаніі мясцовыя актывісты кампаніі распавялі пераможцам аб праблеме смяротнага пакарання ў Беларусі.

---

**1** Каманда «Смаляны».

**2** Каманда «Эверэст».

У красавіку 2018 года каардынатар кампаніі «Праваабаронцы супраць смяротнага пакарання» **Андрэй Палуда** ўдзельнічае ў двухтыднёвым спікер-туры, арганізаваным міжнароднай праваабарончай арганізацыяй «Amnesty International». Мерапрыемства прымеркавана да прэзентацыі штогадовага даклада аб стане смяротнага пакарання ў свеце. Удзельнікі спікер-тура сустракаюцца з палітыкамі, прадстаўнікамі грамадскасці і СМІ, уплывовымі асобамі ў сферы абароны правоў чалавека ў еўрапейскіх краінах. Па словах Андрэя Палуды, 12 красавіка ў рамках мерапрыемства адбылася сустрэча з дэпутатам парламента Францыі, віцэ-старшынёй Камісіі па замежных справах **Мірэлай Клапот**.

**1** Аляксандра Якавіцкая, Андрэй Палуда і віцэ-старшыня Камісіі па замежных справах французскага парламента Мірэла Клапот (злева направа).

**2** Аляксандра Якавіцкая і Андрэй Палуда на сустрэчы з паслом Францыі па правах чалавека Франсуа Крэкетам.

29 траўня 2018 года ў Вярхоўным Судзе адбыўся разгляд апеляцыйнай скаргі на прысуд **Аляксандру Жыльнікаву**, асуджанаму за забойства трох чалавек. Спачатку ён атрымаў пажыццёвы тэрмін, але пасля паўторнага разгляду справы Мінскім гарадскім судом прысуд быў заменены на смяротнае пакаранне. Жыльнікаў і яго адвакаты просяць суд перагледзець справу і замяніць пакаранне на менш жорсткае. Прысутнічаў у судзе і **Вячаслаў Сухарко**, таксама асуджаны да вышэйшай меры пакарання за ўчыненне гэтых злачынстваў, але які не падаваў апеляцыйнай скаргі. Падчас свайго выступу ён заявіў аб тым, што зусім нядаўна былі расстраляныя **Аляксей Міхаленя** і **Віктар Лётаў**, раней асуджаныя да смяротнага пакарання.

*«Я чатыры месяцы сядзеў у камеры смяротнікаў з людзьмі, у адносінах да якіх прысуд ужо ўступіў у законную сілу. А ў дачыненні да мяне яшчэ не ўступіў, але ж гэта нікога не хвалюе. Міхаленя і Лётаў. Іх забралі два тыдні таму, у ноч з 15 на 16 траўня»*, — распавёў Сухарко.

**1–2** Аляксандр Жыльнікаў і Вячаслаў Сухарко ў Вярхоўным Судзе.

**3** Праваабаронцы Алесь Бяляцкі і Андрэй Палуда падчас суду па апеляцыйнай скарзе Аляксандра Жыльнікава.

30 чэрвеня 2018 года ў межах кампаніі «Праваабаронцы супраць смяротнага пакарання» ў мястэчку Смаляны Аршанскага раёна адбыўся Праваабарончы шпацыр па мясцінах дакументальнага фільма «Гісторыя смяротнага пакарання ў Беларусі».

**Віктар Трацякоў**, рэжысёр дакументальнага фільма «Гісторыя смяротнага пакарання ў Беларусі», распавёў, чаму менавіты Смаляны былі паказаны ў фільме: *«Значная частка фільма, якая тычыцца Вялікага Княства Літоўскага, праілюстраваная кадрамі са Смалянаў. Вельмі хацелася паказаць гэтае незвычайнае мястэчка на ўсходзе Беларусі, якое мае шматлікія помнікі даўніны — балотны замак Белы Ковель, дамініканскі касцёл. Адметная і сама атмасфера старажытнага беларускага мястэчка».*

---

**1** Удзельнікі Праваабарончага шпацыру на фоне балотнага замка Белы Ковель.

**2** Удзельнікі Праваабарончага шпацыру ў руінах дамініканскага касцёла ў Смалянах.

У жніўні 2018 года аматарская футбольнай каманда Партыі БНФ удзельнічала ў штогадовым «Кубку свабоды», дзе заняла трэцяе месца. Гульцы каманды былі апранутыя ў майкі з эмблемай Уладзімір Цэслера «НЕ смяротнаму пакаранню». Менеджар каманды **Андрэй Саротнік** узгадаў, што раней, калі ў зняволенні знаходзіліся палітык **Мікола Статкевіч** і праваабаронца **Алесь Бяляцкі**, гульцы гралі ў майках з выявамі гэтых палітвязняў.

*«Гэтым разам мы вырашылі, што актуальным будзе сказаць пра праблему смяротнага пакарання, якая існуе ў нашым грамадстве. Таму і вырашылі апрануць гэтыя майкі. Лічу, што такім чынам у нас атрымалася своеасаблівая акцыя»,* — пракаментаваў Саротнік.

Брамнік каманды, журналіст **Юрась Дзяшук**, які жыве ў горадзе Бярозаўка Лідскага раёна, адзначае, што ў невялікім горадзе майка «НЕ смяротнаму пакаранню» выклікае жывы інтарэс у мясцовых жыхароў:

*«Пасля тых спаборніцтваў я час ад часу яе апранаю. І людзі ў Бярозаўцы часам пытацца пра тое, што там напісана, што ўвогуле гэта значыць і ці сапраўды я выступаю супраць смяротнага пакарання. Аднаго разу нават з аднакласнікам, які служыць у войску, узнікла гарачая спрэчка на гэтую тэму».*

1 Каманда Партыі БНФ па футболе на «Кубку свабоды» 2018 года. Фота з Facebook Андрэя Саротніка.

2 Аматары футбола з Оршы ў майках з эмблемай кампаніі.

Валанцёры кампаніі «Праваабаронцы супраць смяротнага пакарання» разам з актывістамі Таварыства беларускай мовы ўшанавалі памяць паўстанца 1863 года Ігната Будзіловіча ў дзень яго расстрэлу. Кіраўнік аршанскага атрада паўстання 1863 года Ігнат Будзіловіч (1841–1963) быў расстраляны 28 жніўня 1863 года ў Оршы на тэрыторыі езуіцкага калегіума, які ў той час быўператвораны ў турэмны замак.

1 Выступае кіраўнік аршанскай філіі ПЦ «Вясна» **Ігар Казмерчак**: *«У сітуацыі са смяротным пакараннем у Беларусі нічога не змянілася з XIX стагоддзя, калі быў расстраляны Ігнат Будзіловіч. У Беларусі дагэтуль існуе смяротнае пакаранне, у Беларусі дагэтуль расстрэльваюць людзей»*.

2 28 жніўня, вёска Пагосцішча Лёзненскага раёна Віцебскай вобласці. Валанцёры кампаніі «Праваабаронцы супраць смяротнага пакарання» разам з актывістамі Таварыства беларускай мовы на месцы апошняга бою і арышту паўстанца 1863 года Ігната Будзіловіча.

3 Даследчык **Юрась Копцік** рэканструюе мемарыяльны крыж на месцы апошняга бою атрада Ігната Будзіловіча.

10 кастрычніка — Сусветны дзень барацьбы супраць смяротнага пакарання. Тэмай 16-га Сусветнага дня былі абраныя ўмовы ўтрымання зняволеных у камерах смяротнікаў.

Сусветная кааліцыя супраць смяротнага пакарання аб'ядноўвае больш за 150 грамадскіх арганізацый, асацыяцый адвакатаў, мясцовых органаў улады і прафсаюзаў і дзейнічае дзеля ўмацавання міжнароднага аспекту барацьбы супраць смяротнага пакарання, прыкладаючы намаганні для падтрымання тэндэнцыі да яго адмены па ўсім свеце.

На сённяшні дзень дзве траціны ўсіх краінаў свету (141) з'яўляюцца краінамі-абаліцыяністамі як у законе, так і на практыцы. Кааліцыя заклікае да канчатковага спынення смяротных прысудаў і пакарання смерцю ў тых краінах, дзе яны па-ранейшаму ўжываюцца. Дзеля дасягнення сваёй мэты Кааліцыя імкнецца праз аказанне падтрымкі арганізацыям-сябрам, мясцовым, нацыянальным і рэгіянальным абаліцыяніскім сілам, а таксама шляхам каардынацыі міжнароднай адвакацыі ў напрамку глабальнай адмены смяротнага пакарання.

Праваабарончы цэнтр «Вясна» стаў сябрам кааліцыі напрыканцы 2017 года.

У гэты дзень Сусветная кааліцыя прапануе **Дзесяць варыянтаў дзеянняў, якім чынам вы можаце далучыцца да барацьбы супраць смяротнага пакарання.**

1. Напісаць ліст асуджанаму да смяротнага пакарання.

2. Адправіць лісты падтрымкі родным і блізкім зняволеных, іх адвакатам.

3. Прытрымліваючыся парадаў Сусветнай кааліцыі, арганізаваць наведванне месцаў заключэнняя.

4. Арганізаваць публічнае абмеркаванне або паказ фільма з удзелам сябраў сем'яў асуджаных да смяротнага пакарання, апраўданых зняволеных, а таксама адвакатаў і экспертаў.

5. Арганізаваць выставу (напрыклад, твораў мастацтва асуджаных да смяротнага пакарання, фотаздымкаў камер смяротнікаў, малюнкаў, плакатаў на тэму) або паставіць тэатральную п'есу.

6. Прыняць удзел у мерапрыемствах, арганізаваных абаліцыяністамі па ўсім свеце.

7. Адправіць ліст вязню, асуджанаму да смяротнага пакарання.

8. Уступіць у арганізацыю, якая змагаецца за адмену смяротнага пакарання.

9. Стымуляваць сродкі масавай інфармацыі асвятляць тэму смяротнага пакарання.

10. Прыняць удзел у акцыі «Гарады супраць смяротнага пакарання / Гарады за жыццё» 30 лістапада 2018 года.

---

1 10 кастрычніка 2018 года Сусветная кааліцыя супраць смяротнага пакарання прыцягнула ўвагу грамадскасці да ўмоў утрымання зняволеных у камерах смяротнікаў.

2 Плакат Тыдня супраць смяротнага пакарання — 2018 «У цэнтры Мінска расстрэльваюць людзей. Час спыніць канвеер смерці».


WORLD COALITION
16-ы
Сусветны дзень
супраць
смяротнага пакарання:
Умовы ўтрымання
ў камерах смяротнікаў
DIGNITY FOR ALL
10.10.2018 - World day against the death penalty

1


ТЫДЗЕНЬ СУПРАЦЬ
СМЯРОТНАГА
ПАКАРАННЯ
Ў БЕЛАРУСІ
5-10.10.2018
vulica Valadarskaha 1
У ЦЭНТРЫ МІНСКУ РАССТРЭЛЬВАЮЦЬ ЛЮДЗЕЙ.
ЧАС СПЫНІЦЬ КАНВЕЕР СМЕРЦІ!
НЕ
смяротнаму пакаранню
НЕ забірай жыцці
ВЯСНА
праваабарончы цэнтр
Google

2

Вішнева, Валожынскі раён. Касцёл Найсвяцейшай Панны Марыі. Імша, прысвечаная **святому Амброзію Медыяланскаму** (340–397 гг.). Святы Амброзій вядомы тым, што выступаў супраць смяротнага пакарання.

6 кастрычніка 2018 года ў мястэчку Вішнева ў касцёле Панны Марыі маліліся святому Амброзію за адмену смяротнага пакарання ў Беларусі і ўсім свеце. Пробашч касцёла ксёндз Юзаф распавёў, чаму чалавек не мае права адбіраць жыццё ў іншага чалавека, пра магчымасць судовай памылкі, гаварыў пра праблему смяротнага пакарання ў Беларусі і ва ўсім свеце.

Падчас імшы маліліся святому Амброзію Медыяланскаму, які лічыцца першым вядомым абаліцыяністам у свеце і прапанаваў імператару Феадосію Вялікаму адмяніць смяротнае пакаранне. Ён быў адвакатам да таго, як стаў біскупам Мілана, і таму свае прапановы грунтаваў не толькі на маральных прынцыпах, але і на прынцыпах права. *«З пункту гледжання нашай веры, ніхто не павінен забіць чалавека, які ў свой час будзе мець магчымасць для пакаяння да самага моманту яго смерці»*, — пісаў святы Амброзій у сваім трактаце «Каін і Авель».

Напрыканцы імшы заспявалі гімн, прысвечаны святому Амброзію, які склала арганістка касцёла Марыя Трапашка. У гімне ёсць словы: *«Амброзій Медыяланскі, пачуй нас, пачуй! Ад кары смяротнай малітвай ратуй!»*

---

**1** Мураваны касцёл у Вішневе быў пабудаваны ў XVII стагоддзі.

**2** Скульптура святога Амброзія (злева). Эскіз, роспіс — Алесь Пушкін.

**3** Мастак Алесь Пушкін.

**4** Арганістка **Марыя Трапашка** гаворыць: *«Дзякуючы рупнасці пробашча кс. Юзафа ў касцёле з'явілася фігура св. Амброзія. Захацелася даведацца, хто ж ён такі. Тое, што даведалася, уразіла моцна. Думка аб ім не пакідала. А тут і мастак Алесь Пушкін, які распісвае алтар у касцёле, з прапановай выступіў: "Зрабіце песню!" Нават шукала ў інтэрнэце песні і вершы пра яго. Не знайшла. І так, не валодаючы асаблівым творчым дарам, прынялася за справу сама. Далёка не ўсё з яго біяграфіі адлюстравалася ў тэксце. Але… ёсць што ёсць».*

**5** Імша за адмену смяротнага пакарання.

5 і 7 кастрычніка 2018 года. Фестываль «Рок за жыццё». Музыкі ў падтрымку ўвядзення мараторыя на смяротнае пакаранне **(«Nizkiz», «Петля Пристрастия», «Мутнаевока», «SnopSnoй»** і **«Teleport»)**.

**1–3** 5 кастрычніка. Фестываль «Рок за жыццё». Віцебск, бітлз-клуб «Паддашак»

**4** 7 кастрычніка. Фестываль «Рок за жыццё». Мінск, клуб «RE:PUBLIC».

ФОРУМ-ТЕАТР

КО ДНЮ ПРОТИВ СМЕРТНОЙ КАЗНИ

«ПУЛЯ ОТ ОБЩЕСТВА»

МОГИЛЕВ

10 ОКТЯБРЯ

ЦЕНТР «КОЛА», ПЕР. ЧКАЛОВА, 16

18:30 ВХОД СВОБОДНЫЙ

8 кастрычніка 2018 года каля амбасады Беларусі ў Лондане праваабаронца «Вясны» **Наталля Сацункевіч** правяла пікет за адмену смяротнага пакарання. Да акцыі таксама далучыліся каардынатары «Amnesty International» **Бары Хэй** і **Айша Юнг**. Падчас акцыі пікетоўцам удалося пагаварыць з супрацоўнікамі беларускай амбасады. Па словах Наталлі, яны былі ветлівыя і выказалі зацікаўленасць у абмеркаванні тэмы адмены смяротнага пакарання.

Каардынатарка «Amnesty International» па Беларусі Айша Юнг, сябра ПЦ «Вясна» Наталля Сацункевіч і каардынатар «Amnesty International» Бары Хэй.

Падчас Тыдня супраць смяротнага пакарання праваабаронцы «Вясны» традыцыйна выйшлі на вуліцы беларускіх гарадоў з раздачай спецвыпуску газеты «Народная воля». Больш за дзве тысячы асобнікаў «Народнай волі» ў Мінску былі раздадзеныя літаральна за пару гадзінаў. Людзі ахвотна бралі іх і цікавіліся тэмай смяротнага пакарання.

Масавая інфармацыйная акцыя актывістаў кампаніі «Праваабаронцы супраць смяротнага пакарання ў Беларусі» Тыдзень супраць смяротнага пакарання. Спецвыпуск газеты прысвечаны праблеме смяротнага пакарання ў Беларусі. Упершыню матэрыялы спецвыпуску склалі творы вядомых пісьменнікаў, публіцыстаў і паэтаў, такіх як **Уладзімір Някляеў, Алесь Бяляцкі, Аляксандр Фядута, Сяржук Сыс, Сяргей Дубавец, Галіна Дубянецкая, Паліна Сцепаненка**.

10 кастрычніка 2018 года ў Мінску ў літоўскай амбасадзе адбыўся перформанс валанцёркі кампаніі «Праваабаронцы супраць смяротнага пакарання» мастачкі **Тані Тур**. Таксама была адкрыта выстава «Кожны мае права ведаць свае правы». Перформанс распавядаў пра пакуты родных і блізкіх асуджаных да смяротнага пакарання. Амбасадар Літвы ў Беларусі **Андрус Пулокас** у сваім выступе адзначыў, што Беларусь — адзіная краіна ў Еўропе, дзе дагэтуль «дзяржава забівае людзей». У Літве апошні раз такое было ў 1995 годзе. Праз год быў уведзены мараторый, і ў 1998 годзе смяротная кара была адменена. *«Пагадзіцца са смяротнай карай немагчыма. Гэта супярэчыць усяму. Права на жыццё, галоўнае права чалавека — і нехта яго забірае. Гэта вельмі несправядліва. За апошнія 20 гадоў у Беларусі было расстраляна каля 400 чалавек. Гэта складана зразумець. Ад сябе асабіста і ад імя тых, хто шчыра зацікаўлены гэтай тэмай, магу сказаць, што мы не супакоімся, пакуль такое будзе»*, — сказаў Андрус Пулокас.

---

**1** Перформанс Тані Тур. *«Дзякуючы перформансу Тані Тур мы хоць крыху змаглі прачуць тыя эмоцыі блізкіх і родных асуджаных да смяротнага пакарання. Мы змаглі паглядзець на гэтую прблему не з пункту гледжання злачынцаў, злачынстваў, а з другога боку. Смяротнае пакаранне — гэта шматграннае паняцце. Хоць мы завяршаем Тыдзень супраць смяротнага пакарання, але не завяршаем наша змаганне!»* — адзначыў каардынатар кампаніі «Праваабаронцы супраць смяротнага пакарання ў Беларусі» Андрэй Палуда.

**2** Кіраўнік прадстаўніцтва Еўрасаюза ў Беларусі **Андрэа Віктарын** і амбасадар Літвы ў Беларусі Андрус Пулокас. Андрэа Віктарын таксама звярнула ўвагу на тое, што смяротнае пакаранне — куды больш шырокае паняцце:
*«Сем'і — гэта таксама ахвяры. Яны жывуць у няведанні, ці жывыя іх сваякі. Такія выставы і відовішчы вельмі важныя. Можна разважаць вельмі абстрактна. Але калі праблему смяротнага пакарання паказваюць з такога пункту гледжання, то гэта можа змяніць стаўленне да яе. Мы не будзем здавацца, мы будзем змагацца!»*

**3** Амбасадар Вялікабрытаніі ў Беларусі Фіёна Гіб.

**4** Валанцёры Валанцёрскай службы ПЦ «Вясна» і праваабаронца Андрэй Палуда.

На паседжанні Камітэта па прававых пытаннях і правах чалавека Парламенцкай асамблеі Савета Еўропы, якое адбылося 10 кастрычніка 2018 года ў Страсбургу, разглядаўся шэраг бягучых пытанняў. Адна з тэм была прысвечаная Сусветнаму дню барацьбы супраць смяротнага пакарання.
У абмеркаванні праблемы са смяротным пакараннем у Беларусі выступілі старшыня Камісіі па міжнародных справах Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу **Валерый Варанецкі** і юрыст Праваабарончага цэнтра «Вясна» **Валянцін Стэфановіч**.

Кіраўнік парламенцкай камісіі традыцыйна адзначыў складанасць пытання з адменай смяротнага пакарання, казаў, што Беларусь прыйдзе да яго адмены паступова. Ён таксама нагадаў аб выніках рэферэндуму 1996 года, калі большасць грамадзян (82 %) выказаліся за захаванне смяротнай кары, спаслаўся на паступовыя змены грамадскай думкі, нагадаўшы, што 52 % грамадзян выказваюцца за смяротнае пакаранне.

Валянцін Стэфановіч у сваім выступе даў інфармацыю аб апошніх смяротных прысудах, якія былі вынесеныя ў студзені гэтага года, і аб прывядзенні ў выкананне прысудаў у траўні, спыніўся на некаторых праблемных момантах, якія пастаянна крытыкуюць праваабаронцы. Гэта абстаноўка сакрэтнасці, нявыдача целаў расстраляных сваякам, праблема вынясення смяротных прысудаў Вярхоўным Судом, якія немагчыма абскардзіць у парадку апеляцыі, хуткае прывядзенне прысуду ў выкананне.

*«У гэты Сусветны дзень барацьбы супраць смяротнага пакарання я, як грамадзянін Беларусі асабіста і як прадстаўнік грамадзянскай супольнасці, заклікаю ў чарговы раз улады Беларусі да ўвядзення мараторыя на смяротнае пакаранне, паколькі гэта ў першую чаргу адпавядае інтарэсам нашага беларускага грамадства»*, — завяршыў свой выступ Валянцін Стэфановіч.

На паседжанні камітэта былі прадстаўлены апошнія сумесныя даклады ПЦ «Вясна» і Міжнароднай федэрацыі за правы чалавека (FIDH) «Смяротнае пакаранне ў Беларусі: забойствы на (не)законных падставах» і «Беларусь: кантроль над адвакатамі — пагроза правам чалавека».

---

1 Старшыня парламенцкай камісіі па міжнародных справах Валерый Варанецкі, юрыст ПЦ «Вясна» Валянцін Стэфановіч і кіраўнік парламенцкага камітэта Сойма Літвы па замежных справах Эмануэліс Зінгерыс.

2 Супрацоўніца аддзела Усходняй Еўропы і Цэнтральнай Азіі FIDH Юлія Уанон.

Працоўныя моманты падчас здымкаў дакументальнага фільма пра кампанію «Праваабаронцы супраць смяротнага пакарання».

1 Рэжысёр **Віктар Трацякоў** рыхтуецца да здымкаў.

2 Валанцёр кампаніі паэт **Аляксандр Макарэвіч** апранае турэмную вопратку для здымкаў фільма.

3 Паэт Аляксандр Макарэвіч перачытвае словы свайго верша, які ён напісаў пра адчуванні асуджанага да смяротнага пакарання ў «калідоры смерці», з якога няма выйсця.

4 Метафара «калідора смерці».

У Міжнародны дзень правоў чалавека, 10 снежня, адбылася цырымонія ўзнагароджвання штогадовай Нацыянальнай праваабарончай прэміяй. Урачыстае ўзнагароджванне адбылося на толькі як адчыненай асветніцка-адукацыйнай пляцоўцы «Тэрыторыя правоў».

У намінацыі «Кампанія / ініцыятыва года» лаўрэатам была прызнаная кампанія **«Праваабаронцы супраць смяротнага пакарання ў Беларусі»**. Атрымлівалі ўзнагароду каардынатар кампаніі **Андрэй Палуда** і актывістка кампаніі **Паліна Сцепаненка**.

Гэты альбом пабачыў свет дзякуючы падтрымцы:

Дыпламатычнае прадстаўніцтва Швейцарыі ў Беларусі







Östgruppen för demokrati och mänskliga rättigheter

Шведская ініцыятыва за дэмакратыю і правы чалавека










**Праваабаронцы супраць смяротнага пакарання. 10 год змагання**

Альбом

Каардынатар: **Андрэй Палуда**

Укладальнік: **Паліна Сцепаненка**

Прадмова: **Алесь Бяляцкі**

Дызайн і вёрстка: **Віктар Корзун**

Суаўтарства канцэпту, падбор матэрыялаў: **Андрэй Палуда, Паліна Сцепаненка**

Карэктар: **Алена Укусік**

У альбоме выкарыстаныя матэрыялы з наступных крыніц:
**архіў кампаніі «Праваабаронцы супраць смяротнага пакарання»**, **http://dp.spring96.org/, Беларускае Радыё Рацыя https://www.racyja.com/, Радыё Свабода https://www.svaboda.org/, Наша Ніва https://nn.by/**

Наклад 500 ас.

